# *Хведар Жычка*



# *ЯШЧЭ АДЗІН ПРАКОС*

*Хведар Жычка*

# ЯШЧЭ АДЗІН ПРАКОС

**ВЕРШЫ**



**Мінск
«Мастацкая літаратура»
1991**

ББК 84Бел7
Ж94

Лирика сборника наполнена гармонией и красотой, спокойствием и мудрой тишиной.

Юмористическим циклом «Короткое замыкание» и сатирой «Писал поэму я...» автор как бы создает заслон горькому наследию застойной поры, которое по инерции стремится проникнуть в нашу действительность.

Ж $\frac{4702120202-001}{М\ 302(03)-91}$ 55—91

ISBN 5-340-00645-X

* * *

Мо каму чытаць ніякавата
гэтыя шурпатыя радкі.
Не ў палац вядуць яны,
а ў хату,
што зрабілі з бёрнаў землякі.

Тая хата не была багатай
на адзенне,
мэблю
і яду,
толькі ў ёй не прадавалі брата,
а дзялілі пораўну бяду.

Дзіркамі там затыкалі дзіркі
і ашчадна адразалі хлеб...
Я ў той беднай хаце нарадзіўся,
стаў на ногі, вырас і акрэп.

І з той хаты ў людзі я выходзіў...
Хоць прайшоў мо тысячу дарог,
не мінаю пры любой нагодзе
зноў пераступіць яе парог.

Там даўно жыве сям'я чужая...
Дах бляшаны,
распісны франтон...
Ды яна здалёк мяне пазнае,
прывітае ўсмешкаю акон.

## ЖЛОБІНСКІЯ ЭЦЮДЫ

### САД

Я колькі ні блукаў па свеце,
пейзажаў лепшых не сустрэў:
сад ля Дняпра прыбраўся ў квецень
так, што зусім не відна дрэў,
нібыта завіруха вёску
пушыстым снегам замяла...

На сонцы песцяцца пялёсткі,
і ў кожнай кветачцы — пчала
шчыруе,
мёд і воск збірае,
каб пракарміць сваю сям'ю...

Вось так і людзі ў нашым краі,
што сеюць хлеб
і сталь куюць.

### ПАРТЫЗАН

Матулі сказаў:
— Вярнуся, не плач...—
і знік у скляпенні ночы.

Каханай сказаў:
— Да спаткання! Чакай...—
і знік у разліве світанку.

Сказаў камандзіру:
— Загад зразумеў! —
і знік у мігценні лістоты.

Вярнуўся да ўсіх ён —
у цэнтры сяла
стаіць абеліск мармуровы,

і золатам ззяе
яго імя —
такое ж, як ён, маладое.

### ПАМЯЦІ ПАЭТА

Дыхні, вятрыска, сум развей,
сарві жалобны крэп з партрэта!..
Быў мулярам Яцук Мацвей
і быў паэтам.

Маўчаць гаркотна ля труны
кватэр утульных навасёлы...
Ён людзям будаваў дамы,
бальніцы, школы...

Пабыў бы шчэ сярод жывых,
падыхаў мёдам руні весняй,
шчэ б напісаў мо пару кніг
бадзёрых песняў...

Цяплом бы сэрца, як і рук,
сагрэў сучаснікаў, нашчадкаў...
Паэтам быў Мацвей Яцук,
бо сеяў шчасце.

## НЕ ТАКІ БАЗАР

Дзядзька Лаўрэн
аглядае тавар,
зведзены бровы,
насуплены твар.

Галавою матае
і цяжка ўздыхае:
— Ці ж гэта базар?!.

А на сталах усяго ёсць багата:
цыбуля, часнок,
агуркі і салата,
сыр,
масла,
тварог
і смятана густая...

— Ці ж гэта базар?!.—
дзядзька зноў паўтарае.

Суніцы, чарніцы,
агрэст і клубніцы,
маліна,
ажына,
грыбы,
гарбузы,
чарнаплодка-рабіна...

— Ці ж гэта базар?!.

Мяса,
кілбасы,
вяндліна і сала,
мёд,

кавуны,
сухафрукты на ўзвар...

— Ці ж гэта базар?!.

Няўжо табе, дзядзька,
гэтага мала?
Чаго яшчэ хочуць
твае завідушчыя вочы?

— Каб фыркнуў дзе конь,
парася завішчала,
во быў бы базар!

### СЯМ'Я МАЙГО ПЛЯМЕННІКА

Пра гэткае ў родзе Жычкаў
адвеку ніхто не марыў,
каб жонка была хімічкай,
а муж —
сталяварам.

### БАЦЬКОЎСКАЕ ШЧАСЦЕ

Маладыя бацька і маці
не могуць налюбавацца
маленькай дачушкай Таняй,
што поўзае па дыване,
промні ловіць рукамі
і бурбалкі з рота пускае.

### НА ЛЁДЗЕ

Хтосьці па лёдзе
ідзе праз Дняпро —
чорная кропка на белым.

Як разгадаць,
ці са злом,
ці з дабром,
трус ён ці смелы?..

Смелага, хто да нас крочыць з дабром,
шчыра вітаем,
а баязліўца са злом
хай Дняпро
ў пельку пад лёд забірае.

## УСЁ СХАВАНА

У гэтым маленькім,
як мошка, зярняці
схавана ўсё тое,
што потым нас будзе здзіўляць:
карэньчыкі, парастак востра-зялёны,
які разаўецца ў сцяблiначку —
трубку жывую,
што колас пад сонца
падыме, налье і даспеліць
і будзе струною пад ветрам
хвалебную песню звінець.

А колькі ў ім атамаў
кружаць свае электроны,
ты, фізік прамудры,
зірні ў мікраскоп і скажы:
каторы з іх стане лістком,
а каторы — сцяблінкай,
каленцам,
зярняткам,
вусом-асцюком?..

Вось гэтак і дзеці.
Бягуць сёння ў школу гурбою,
вясёлыя ўсе,
загарэлыя ўсе
і бяскрыўдныя ўсе.
І хтосьці з іх стане шафёрам,
шахцёрам,

плыўцом,
камбайнёрам,
артыстам,
паэтам,
вучоным,
суддзёй,
касманаўтам,
паслом.
Настаўнікі бачаць, вядома:
адзін на ляту ўсё хапае,
другі — ні туды ні сюды,
мог бы знаць, ды чагось не стае,
а трэці — зусім ветрагон,
не вучыць нічога, няўклюда,
чацвёрты — не цяміць зусім,
пусты і тупы, як бязмен...

Ды пройдуць гады,
і з выдатніка выйдзе пасрэднасць,
а той, хто нічога не цяміў,
здзівіць трактатамі свет,
і ціхенькі хлопчык, што слова баяўся
прамовіць,
з высокай дзяржаўнай трыбуны
прамовамі будзе грымець.
...Зярнятка ляжыць
на далоні маёй агрубелай,
пасею вясною ў раллю яго —
вырасце колас жыцця.
Гуляюць на школьным двары
хлапчукі і дзяўчынкі,
што трэба зрабіць нам,
каб лёсы іх шчасцем цвілі?

## ГАРОТНІЦА

Святая мова родная, дазволь
перад табой, гаротніцай, уклеңчыць.
Ты — наша радасць,
наш няўцешны боль,
і гонар наш,
і сорам наш адвечны.

Зняважаная высілкам хапуг,
бяздомніцай ты стала ў родным доме,
дрыжыш ад холаду, загнаная ў катух,
ясі ля прыпечка,
спіш доле на саломе.

Якою ж прыгажуняю была!
Спявала:
*«Пасею гурочкі*
*нізка над вадою,*
*буду хадзіць, паліваці*
*дробнаю слязою...»*
Жартавала:
*«Пайшоў швец у танец,*
*нагавіцы ўпалі,*
*хацеў стаць і падняць —*
*дзеўкі абсмяялі...»*
І скакала:
*«Гоп, гоп, гапака,*
*прымі, маці, прымака,*
*а не прымеш прымака,*
*дык зраблю я байструка...»*

Чырвонаю шыпшынаю цвіла,
на барацьбу за волю заклікала:
*«Партызаны, партызаны,*
*беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*рэжце гітлерцаў паганых,*
*каб не ўскрэслі век яны».*
Хто ж гэтак збэсціў прыгажосць тваю?
Хто воблік твой прывабны так забрудзіў,
што й родныя сыны не пазнаюць,
стыдаюцца з табою выйсці ў людзі?

Хадзем жа, любая, да родных тых крыніц,
дзе шчэ жывы струмень сумлення б'ецца,
каб смагу наталіць,
каб нагаворы змыць
і зняць сумненні, як закляцце, з сэрца.

Набудзем сілу мы і ажывім свой дом,
здаровыя, бадзёрыя, мажныя,
зазвонім гуслямі і на ўвесь свет гукнём:
— Мы — беларусы!
Мы яшчэ жывыя!

* * *

Справядлівасць,
ісціна,
праўда —
гэтыя словы зусім не сінонімы:
можа быць праўдай несправядлівасць,
можа быць справядлівасць няпраўдай,
няпраўда можа быць ісцінай,
а ісціна — няпраўдай...

У наш век
здараецца і не такое!..

## АБ'ЯВА
## АБ АБМЕНЕ КВАТЭРЫ

Свой пяты паверх
я мяняю на першы.
На пятым паверсе
не пішуцца вершы.

На першым было б
і лацвей і бліжэй
да роднай зямлі,
да вясёлых дзяцей.

Ты кажаш:
на першым
трывожаць зладзеі...
А што ў мяне красці:
задумы,
надзеі?

Іх многа ў мяне —
іх мільёны мільёнаў,
задарма аддам,
падстаўляйце далоні!

Насыплю, як семак,
пяску або маку,
бярыце, ўжывайце,
скажу толькі «дзякуй!»
Самому мне іх
не спажыць,

не адужаць,
бо слава даўно ўжо
мне голаў не кружыць,

ні слава,
ні грошы,
ні горы багацця
не вернуць мне больш
маладосці і шчасця.

Адно застаецца —
бадзёрыцца ў вершы.

Свой пяты паверх
я мяняю на першы!

* * *

Мора — гэта люстра неба,
ветру свіст
і водар хлеба;

шлюпкі пругкае вясло,
чайкі лёгкае крыло;

дождж і гром,
вада і соль;

смех і плач,
уцеха
й боль.

## ВАРОТЫ

Выхваляемся, што ў нас
шырока адчынены вароты
ў навуку,
у мастацтва,
у спорт...
Усё гэта — хлусня,
бо вароты на тое і робяць,
каб кагосьці кудысьці
не пускаць,
і яны бываюць больш зачынены,
чым адчынены.

Шырока адкрыты вароты
толькі там,
дзе іх зусім няма.

## БАСОВАЯ СТРУНА

Ясным полымем пагляду
ці ж развееш пыхі дым?
Вечнае цярэбім ляда:
і гаворым без спагады,
і спагадліва маўчым.

Справы не ідуць за словам,
абяцанкі — неўпапад,
ды прамоўца адмысловы
на адной струне басовай
грае оперу-даклад.

Грае ўпэўнена, зацята —
жар юнацкі не астыў! —
ёсць для недруга — цытата,
а для брата ёсць парада
і шаблонны ёсць матыў.

Дзе мастацтва — там і плыні,
там і парасткам рунець.
Вопыт продкаў не загіне,
навучыў нас Паганіні
на адной іграць струне.

## ВОСЕНЬ

Сцеле восень пад ногі мне лісце,
дух яго кружыць галаў, як хмель.
...Гэтак вось
                    рассцілала калісьці
мне каханка пасцель;
гэтак вось
                    усміхалася сонна,
беручы малады мой імпэт...

Восень, восень...
Астылае сонца...
Падзалочаны свет...

## ПАЭТЫ

Няшчасныя людзі — паэты,
ім вечна ўгамону няма:
не звяжа іх пляжнае лета,
на печ не загоніць зіма.

Іх доля — па свеце бадзяцца,
бяздомнічаць і галадаць,
здзіўляцца і захапляцца,
дарогу да праўды шукаць.

А праўда, яна за туманам
расплыўчатым ценем брыдзе,
падыдзеш — і фатамарганай
знікне, навек прападзе:
ні следу,
ніякай адметы,
ці лета стаіць, ці зіма...
Шчаслівыя людзі — паэты,
ім вечна ўгамону няма.

## ЯНКА КУПАЛА

Прыязджаюць у Вязынку
паэты,
вопытныя і зусім маладыя,—
усе шукаюць тую сцяжынку,
якой ішоў калісьці Янка
з сялянскай хаты
ў вялікую паэзію.

Шукаюць,
каб прымераць яе да сябе,
да сваёй творчай біяграфіі,
быццам не ведаюць,
што ніякай сцяжынкі не было.

Была
зарослая калючым цёрнам
аблога,
якую прайшоў з горда ўзнятай галавой
хлопец з Вязынкі.

Таму ён — паэт,
таму — Янка Купала.

### ЯКУБ КОЛАС

І аблічча — сялянскае,
і характар — сялянскі,
і гаворка — сялянская,
і па-сялянску просты,
ды моцны радок.
...Дзесьці пранік пляскае,
дзесьці мычаць цяляткі,
дзесьці пугай ляскае
падлетак-пастушок.
Дыміцца баразна...
Бяжыць пракос...
Звініць калоссе...
Гусцее лес...
І з валуноў ссыпаецца жарства...
У клопатах зямных
і не заўважыў,
як узнёсся
на боскія вышыні хараства.

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Зноў на гары Траецкай,
там, дзе гуляў малым,
Мінск прапісаў навечна
цябе, наш Максім.

Ясені і каштаны
памаладзелі зусім.
Вершы на памяць чытаем
твае, наш Максім.

Вечар зямлю лагодзіць.
Моўчкі ў абшар глядзім:
зорка Венера ўзыходзіць
твая, наш Максім.

Дрэвы шапочуць веццем...
Тчэцца зары кілім...
Дзень залацісты прывецім
з табой: наш Максім.

ЯЗЭП ПУШЧА

Кланяўся ў пояс раніцы,
а яна прывяла не дзень — ка́та
з бізуном і напаленымі да чырвані
абцугамі,
якога ў вершах
усё роўна называў херувімам,
нібы прадчуваў,
што ягоны рай — жыццё без ланцугоў—
будзе задужа кароткім...

УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

Як Дзед Мароз, блакітнымі вачамі
глядзіць з партрэта Нэлы Шчаснай.

Прайшоў усе ён завірухі,
а на душы —
ні злосці,
ні тугі,
ні скрухі.

## ВОІНЫ

Іх застаецца менш і менш
са мной, з табою
тых, хто пісаў свой звонкі верш
на полі бою,
хто на дарогах франтавых
быў запявалам,
каму б яшчэ сярод жывых
пражыць нямала.

Зноў сцяг брыгады Куляшоў
не ўздыме ў высі;
ў сваю дывізію пайшоў
гвардзеец Пысін;
аблюбавалі вечны схоў
і Броўка з Глебкам,
Бачыла,
Корбан,
Гарулёў
і Сабаленка...

Іх застаецца менш і менш
са мной, з табою,
хто гартаваў свой звонкі верш
у горне бою,
хто словы клаў не для прыўкрас —
як тол пад рэйкі...
Няма Бялевіча між нас,
няма Астрэйкі;

сцяжыны Віцебскіх варот
яшчэ іх помняць,
браў вершы з іхніх рук Шмыроў
зарукай помсты;
пайшлі, нібы ў вячэрні змрок,
пад елак засень
блакітнавокі Васілёк,
Мікола Засім...

Ці ж можна іх злічыць усіх,
паэтаў мужных,
хто полымем радкоў сваіх
байцам грэў душы?!.

Іх застаецца менш і менш
на белым свеце...
Набатам хай грыміць іх верш
па ўсёй планеце!

### ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

Зноў пад Ушачамі
на сцішаных палетках
спявае-даспявае збажына. 30
Галінкай яблыні
і мальвы кветкай
нас адарыла
вёска Старына.
Цяпер жанчыны ўсе тут гаваркія,
пявунняў,
як заўсёды,
недабор...
Быў перад Спасам
Дзень у Еўдакіі,
калі ўзлятала песня
аж да зор.

І сад,
    наліты сопкімі пладамі,
як ноччу неба зорнае, зіхцеў.

...Чаму ж усё цяжэй
                    становіцца з гадамі
успамінаць
            той лебядзіны спеў?..

### АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

Па маршчыністым твары
паўзуць мурашкі ўспамінаў,
яны вяртаюць туды,
дзе ў траншэі салдаты
кураць махру перад боем.
— Дзень добры, сябры!
Я зноў з вамі...

Салдаты маўчаць.

А за вокнамі магілёўскай бальніцы
нахабніца-Смерць
матчыным голасам гукае:
— Ля-я-ксе-е-ей!..

### АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

Ці спатыкнуўся,
ці наўмысна ў бездань скочыў,
прыняўшы глыбіню за вышыню?

А мо й яму
хтось дротам павыпальваў вочы,
як тому
        сівагрываму каню?..

Гусцее шэры змрок вячэрні —
ноч прыйдзе, хоць ты плач ці скач...
Паэтам быў мой цёзка Чэрня,
пісаў — як жыў,
а жыў...
Прабач,
прабач ты мне за праўду, дружа,
хлусіць у вершах я не спец.
Пахібкі Чэрня не адужаў,
хоць быў мудрэц,
ды — не баец.
Спакусе здаўся ён без бою,
за крокам
крок
спускаўся
ў змрок,
упаў
знямоглай
галавою
на недапісаны радок.
І справа тут зусім не ў нервах —
было натхненне,
быў застой...
...Ён не пакінуў нам шэдэўраў —
пакінуў горкі вопыт свой.
Той вопыт Чэрню вылез бокам
і пажыццёвым стаў папрокам
усім яго сябрам жывым.

Няхай жа служыць ён урокам
паэтам новым, маладым.

І не паўторыцца ні ў кім!

### ІВАН КАЛЕСНІК

Яго жыццё не шкадавала,
вучыла праўдзе пакрысе:
на золку з ложка падымала
і басанож за статкам гнала
па золкай і густой расе.
Пісаць і часу не ставала.
Стварыў ён вершаў дужа мала,
ды помняць хлопцы ля Арала
і ў нас забылі шчэ не ўсе.

### СЫМОН БЛАТУН

Холад — у пакойчыку,
голад — у страўніку,
горкая цыгарэта — ў зубах,
пустата — ў кішэні...

І толькі на стале,
на пажоўклым аркушы паперы —
палымяны верш.

### ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

Штогод мяняе бор іглiцу,
а час ці ж расшыфруе злыбяду:
хто замуціў празрыстую крыніцу?
Хто атруціў гаючую ваду?
Каму перашкаджала кветка-краска?
Каго цвяліла траўка дзераза?

...З балкона дома —
не з гары Парнаскай —
скацілася пякучая
сляза...

## МЕСЯЦ ПЛЫВЕ...

Месяц плыве
над лясамі густымі...
Месяц плыве
над шляхамі пустымі...

Месяц плыве
над няворанай нівай...
Месяц плыве
над аблогай журлівай...

Месяц плыве
над засохлай таполяй...
Месяц плыве
над гаротнаю доляй...

Месяц плыве
над пакінутай хатай...
Месяц плыве
над лагчынай праклятай...

Месяц плыве
над рачулкаю соннай...
Месяц плыве
над чарнобыльскай зонай...

## ДЫЯЛОГ

— Куды ідзеш, дзядуля?
— Я? Да сябе дамоў...
— У вёсцы ж нашай — зона...
— Я ж да сябе, дамоў...
— Дзядуля, небяспечна...
— Дык я ж іду дамоў...
— На могілкі дарога...
— І я кажу: дамоў!..

## РАДЫЯЦЫЯ

Без формы і без колеру
пранікае настойліва
кропля за кропляй
у кожную рэч:
у нашы лыжкі і міскі,
у нашу лімфу і кроў,
бяжыць па артэрыях,
жылах і капілярах,
пакуль не насыціць
кожнага з нас.

## ПАРТРЭТ

Газеты даўнія чытаю —
дзяцінства «рай» успамінаю:

забыты і трывожны час,
з прыгонным статусам калгас,

што з працаднём пустапарожнім
лічыўся моцным і заможным,

бо першым хлеб Дзяржаве вёз...
Чырвоны, помню, плыў абоз;

з партрэта правадыр вусаты
глядзеў на згорбленыя хаты,

нібы сачыў, ці ўсё забраў,
ці не пакажуцца з-за брам

кулацкія хвасты-бароды
і маскі «ворагаў народа»...

На выгляд дэспат просты быў:
скуласты, сыты і рабы,

з шчацiністымі валасамі,
з усмешкай хцівай пад вусамі,

з пяшчотай Каіна ў вачах,
з драўлянай піпкай у зубах...

Насіў шынель і фрэнч суконны
(пад старасць начапіў пагоны),

на мудрай галаве — картуз,
вялікі, круглы, як гарбуз;

абуты ў хромавыя боты,
«Вёў,— жартавалі,— нас балотам».

І тых, хто жартаваў заўзята,
адвозіў ён у Курапаты,

а там падручных зграя ўмела
угаманіць душу і цела...

2 Зак. 213

## РУКУ ПРАЦЯГНУЎ ТЫ...

Цямнее ўваччу, хоць асветлена зала,
мурашкі бягуць па спіне,
руку працягнуў ты, якая пісала
калісьці данос на мяне.

— Дзень добры! —
лісліва ўсміхаюцца вочы,
на шчоках — лагоды прамень.
Я ведаю добра, што сёння ты хочаш,
каб я ўжо не помніў той дзень.

А я не забыў.
Ці ж забудзеш такое?
Жыццё маё й сёння — не мёд...
Мой лёс быў зламаны вось гэтай рукою,
халоднай і слізкай, як лёд...

Не, я не злапомны, скандаліць не стану,
навошта мне новае зло?
Навошта вярэдзіць адкрытую рану,
вяртаць, што навекі сплыло?

Употай насоўкай руку выціраю,
нібы ад заразы якой.
Сваёй праваты вышыню вымяраю
нікчэмнасцю чорнай тваёй.

## КАРАЦЕЛЬКІ

Можна птушку выляпіць з гліны,
можна фарбамі намаляваць,—
будзе птушка нібыта жывая,
ды не зможа лятаць і спяваць.

*

Дзе моцны дух, там тонкі нюх
і гонар шчэ не страчаны.
Арол не ловіць, кажуць, мух,
а леў не есць здыхляціны.

*

Маланка
старой не бывае —
маланка
ў палёце згарае.

*

Як грыўні са сталоў,
з роўнядзі азёр
зграбу ў сваю далонь
звон спелых зор.

*

Не вер вятрам ты ні на грам,
ім вернасць — не радня:

у лес зайсці ёсць сотні брам,
для выхаду ж — адна.

*

Ні зрокам, ні слыхам
не ахопіш акіян,
як бязмежнае глупства,
як бясконцы падман.

*

Адпачніце, стомленыя струны!
Не далі вы гучнай славы мне,—
як жаўрук над аксамітнай рунню,
непрыкметны доўга я звінеў.

*

Калі ў душы ты маеш веру,
што будзеш вечна маладой,—
хваробу вылечыш любую
вадою простай ключавой.

*

Прапахла воскам пожня
і мёдам — сенажаць.
Хоць мне жаніцца позна,
ды рана паміраць

*

Зноў дома я. Лікуй, душа і цела!
Ды штось нязетліва сустрэла поле:
яно нядаўна коласам звінела,
іржэўнікам цяпер мне ногі коле.

*

Ах, як неахвотна
збірацца мне туды,
куды вядуць турботна
пражытыя гады!

*

І адно цяпер імкненне:
скінуць кайданы надзей,
чалавечага сумлення
не згубіць у судны дзень.

## ІДЗЕ МАЦІ ДА ДОНЕЧКІ

*З народнага*

Як у полі былiначку
вятрыска хістае.
Ідзе маці да донечкі,
у людзей пытае:

— Людзі добрыя, скажыце,
дзе жыве дачушка,
што вясной к вам прыляцела
птушкай-весялушкай?

— Жыве, маці, твая донька
вунь у трэцяй хаце.
А ў той хаце на палацях
не злічыць багацця.

Сядзіць донька ля акенца,
нібы тая пані:
чыста вымытыя рукі
і ў шаўкі прыбрана.

За багатым, ведай, мужам —
не жыццё, а гулі...
Ды нічога не схаваеш,
донька, ад матулі.

— Не таіся, не крывіся,
раскажы ўсё маме,
адчаго ж у цябе, донька,
сіньцы пад вачамі?

— Раніцою на прагулку
я ў садзік хадзіла,
і мяне там ненарокам
пчолка укусіла...

— Зараз, донька, не пятроўка,
пчолы не лятаюць.
Чаго ж табе ў ціліпаўку
вочы падпухаюць?

— Аддавала ты, матуля,
мяне замуж сілай,
нібы тую канапельку
ў сажалку ўтапіла.

Канапельку ты ўтапіла
ды на дзве нядзелькі.
А мяне ж ты аддала
на вечныя векі.

Канапелька пад вадой
маркоціцца дужа...
Ну, а як мне, маладой,
жыць з нялюбым мужам?!.

## ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА

Ніякі геніяльны верш
не хваляваў мяне так,
як гэты нязграбны надпіс
хімічным алоўкам
на кавалачку паперы,
прыклееным да шклянога слоіка:

«Агрэстава варэня для внукав»,—
напісала мама,
калі была яшчэ жывая.

## СЛАВАЦКІЯ ЗАМКІ

На скале высокай замак —
для Славакіі не дзіва,
гэта Спіш, Чэрвены камень,
Быстрыца, Арава, Дэвін.

Працавітыя славакі
будавалі іх трывала,
край свой пільна вартавалі
ад варожае навалы.

І калі падступіць вораг
незлічонаю ардою,
замыкалі ўсе вароты,
напаўнялі роў вадою.

Мелі ў замку ўсё, што трэба
пры шматмесячнай асадзе:
зброю
і запасы хлеба,
мёду,
мяса,
масла,
сала.

І праз тоўсты пласт граніту
да падземнае крыніцы
студня там была прабіта,
каб усе змаглі напіцца.

Быў свой млын,
свая пякарня,
кузня, дзе кавалі зброю,
і сталярня,
і ганчарня,
і тартак,
і нават бровар.

І жылі славакі ў замку
без абраз і нараканняў,
уставалі на світанку,
працавалі да змяркання.

Хлопцы ладзілі гулянкі,
песні, скокі да паўночы,
а пасля сваіх каханак
цалавалі ў вусны,
вочы.

Бо няма на свеце сілы
і няма такой асады,
каб жыццё яны спынілі,
адмянілі сэрца ўладу.

## ДАСПЕЛАЯ НІВА КАЛОССЕМ ЗВІНІЦЬ

*Нэлі Тулупавай*

Пад Рэчыцай помняць яшчэ землякі
зіму-калыханку,
тады на палях снег быў чысты такі,
нібы пытляванка;
мароз-ваявода абходзіў лясы
па сцежках ласіных;
мяцеліца ў коміне ў тры галасы
спявала быліны.
Адтуль—чысціня тваіх шчырых
радкоў,
прывабныя чары,
лагоднасць пагляду, мелодыя слоў
і светлыя мары.
Вясною пяшчоту прыносіў прамень,
цвілі кветкі ў полі,
у ясным блакіце звінеў увесь дзень
жаўрук тваёй долі.
І песня мацнела, ігралі гучней
цымбалы на свяце,
рабілася ўтульней, чысцей і цяплей
і сонечна ў хаце.
Адтуль — твая чуласць і слодыч
надзей,
спагадлівасць сэрца,
імкненне дзявоцкае — быць для
людзей
сястрой міласэрнай.

А лета прыйшло — сонца стала ў зеніт,
усіх яно грэе.
Даспелая ніва калоссем звініць.
Душа не старэе,
імкнецца яна, як раней, адарыць
сяброў доляй весняй,
у свет неўміручасці браму адкрыць
бадзёраю песняй.
Няхай жа да восеньскіх дзён
залатых
яснеецца неба,
і поўніцца хата праўдзівасцю кніг
і водарам хлеба.

## ЛЕСВІЦА

У дзяцінстве жыццё мне ўяўлялася
лесвіцай,
па якой трэба паднімацца
ўсё вышэй і вышэй,
каб сонечныя промні ліліся насустрач,
асвятляючы новыя краявіды,
новыя паняцці,
новыя мэты.

А цяпер
жыццё мне здаецца
спускам па рыпучай лесвіцы
усё ніжэй і ніжэй, нібы ў калодзеж,
дзе волгкая цемра назойліва
прыліпае да цела.

* * *

Дабрацца б зноўку мне да тога вусця,
дзе Добасна ўліваецца ў Дняпро,
дзе так пілося сонца
з любых вуснаў,
дзе так звінела песня серабром.

Іду знаёмай сцежкай,
а мясціны
змяніліся — нічога не пазнаць.
Насоўваецца хутка вечар сіні,
хвалюецца трывожна збажына...

Вось-вось русалка ў жыце зарагоча
і глуха вухне за спіной пугач...
. . . . . . . . . . . . .
Чаго, збалелая душа, ты хочаш?
Аб незваротным горасна паплач.

* * *

Не, не люблю я цішыні,
як і няволі.
Няхай жа трактар дзень пры дні
туркоча ў полі.

Хоць і няма таго агню
і бур сардэчных,
ды не хачу я ў цішыню
ісці навечна...

Калі ўжо лёсу не мінуць,
адбыцца драме...
Прарву я вершам цішыню
і буду з вамі.

* * *

Кожнаму дрэву
стаяць, дзе ўзышло,
веццем кудлатым
глядзець на святло.

Кожнаму дрэву
расці ўвышыню,
небу ўсміхацца,
вясноваму дню.

З кожнага дрэва
штось зробіцца нам:
ложак,
калыска,
стол
ці труна.

* * *

Я за славай не ганюся,
бо не той ужо узрост.
Нейк дадому дабяруся
ці акольна,
ці наўпрост.

Час бяжыць, яго не спыніш,
і не вернеш больш вясны,
засталіся дні, гадзіны...
Дык навошта мне чыны,
віншаванні,
шанаванні —
каб мяне яны гнялі?

Вольным быць і на змярканні
ох, як добра на зямлі!

* * *

Усё часцей начамі
наведвае журба
і сумнымі вачамі
глядзіць, як на раба.

«Як,— шэпча,— ні круціся,
як ні сцялі кілім,
бадзёрся,
маладзіся,
ды будзеш ты маім.

Не стану біць знянацку —
пяшчотаю ў палон
вазьму цябе па-брацку,
зацісну, як пітон;

павалаку на плаху,
пазнаеш ты мяне:
ад жудасці і жаху
аж сэрца скалане!»

* * *

Перасохлы памяці ручай,
хто цябе прачысціць і адновіць,
хто прымусіць весела журчаць,
як тады — пад сонейкам вясновым?

У мяне ўжо спрыту не стае
разбурыць завалы і запруды,
спаласнуць завоіны твае,
змыць без жалю
ў мора
смецце з брудам...

* * *

Яшчэ адзін пракос прайду,
кассё ў зямлю ўваткну,
ад працы,
ад пякельных дум
нарэшце адпачну.

Прылягу моўчкі, без турбот
пад свежаю капой,
хай сонца выпарыць мой пот
з кашулі ільняной.

* * *

Вішнёвы лісцік з дня на дзень
жаўцее нетаропка;
аслабне ён і ападзе
на дол
іскрыстай кропкай.

На гэтым скончыцца расказ
пра залатое лета...
Вось так і ты:
марнуеш час,
зірнеш — а песня спета.

* * *

Сонца заходзіць,
паўзуць па лагчыне прыцемкі,
а ў мяне яшчэ процьма працы,
і я не гатовы сустрэць ноч,
бо трэба яшчэ многае сказаць
сынам,
унукам,
суседзям,
знаёмым
і ўсім добрым людзям;
на маім стале
ляжаць неадказаныя пісьмы
ад далёкіх сяброў.
Што ж яны падумаюць пра мяне?

* * *

Дзядуля сядзіць на калодзе
ля хаты старэнькай,
варушыць пясок
ядлоўцавай кавенькай,
плюскае трахомнымі вачамі,
хоча разгледзець,
хто гэта праходзіць вуліцай:
чужыя ці суседзі?
Не бачыць амаль нічога,
пазнаць па хадзе імкнецца.
«Пара ўжо ў дарогу да Бога»,—
шэпча, бярэцца за сэрца.
Галодныя свінні ў двары
вішчаць ля пустога карыта...

А вецер прыносіць з палёў
пах спелага жыта.

## МІНУТА МАЎЧАННЯ

Мінута маўчання...
Усяго толькі адна мінута?
Што яна нам, беларусам!
Прывыклі маўчаць мы гадамі,
вякамі,
нават мову сваю забылі
ад маўчання, пакоры нямой...

Калі ж мы ўспомнім
пра гонар свой?

* * *

Магчыма, лягчэй будзе жыць у раі:
там, кажуць, і ў сцюжу пяюць салаўі;

там, кажуць, малочныя рэчкі цякуць;
там, кажуць, дабра —
як ля мора пяску;

там, кажуць, зялёныя вечна сады,
на голлі салодкія спеюць плады...

Адно, што там кепска,—
між райскіх людзей
плады тыя дзеліць спакуслівы змей:

дасць яблык табе ці які там арэх,
з'ясі — і адразу пацягне на грэх.

А грэшнікам станеш — ад райскіх варот
без лішняй размовы круты паварот,

і ў пекла — цяпер назаўжды, назусім —
спіхне цябе ўраз малады херувім.

# Я ШЧАСЛІВЫ

Я шчаслівы, што — не геній,
не славутасць, не герой
і магу паспаць на сене
пад паветкаю старой;

і магу, узяўшы кульбу,
выйсці ранкам са двара,
есці печаную бульбу
з пастухамі ля кастра;

і магу назвацца братам
працавітых мурашоў,
адчуваць сябе багатым
без капейкі за душой;

і магу лясы, балоты
змераць ўпоперак і ўдоўж
у лапцях, гумовых ботах,
а то й проста басанож;

і магу на даляглядзе
узабрацца на сасну,
каб далоняю пагладзіць
сонца рыжую спіну;

і магу ўсхваляць сумленных,
а брыду назваць брыдой,
бо ніякі я не геній,
не славутасць, не герой.

* * *

Ранавата цяпер вечарэе,
золь паўзе пад туманам густым...
Дай жа рукі твае пагрэю,—
ты азябла зусім.

Ад расы травастой макрэе,
і святлее лугоў кілім.
Дай жа рукі твае пагрэю,—
ты азябла зусім.

Закаханыя не старэюць,
ім ісці праз агонь і дым.
Дай жа рукі твае пагрэю,—
ты азябла зусім.

* * *

Не п'ю, не куру,
а старэю ўсё роўна,
губляю адвагу
і слодыч надзей,
на зорнае неба гляджу ўжо спакойна,
і мора мне сніцца радзей і радзей.

Ах мора!
Тугія блакітныя хвалі,
і белая пена,
і горкая соль,
бяздоннае неба,
бясконцыя далі,
і радасць адкрыццяў,
і страт горкі боль.

Здавалася, будзе ўсё гэта ў мінулым,
суцешаць душу дабрабыт і спакой...

Прайшла зноў ты міма,
ў мой бок не зірнула,
растала,
як чайка ў сінечы марской...

## НА ПЛЯЖЫ

Ляжыш на пяску,
абнятая,
абмацаная
і сцалаваная з усіх бакоў
ненасытным сонцам;

потым усё гэта
з табой паўторыць мора.

Найменш за ўсё ты дастаешся мне!..

* * *

Была на сэрцы скруха,
лілася цераз край.
Прыйшоў я да шаптухі:
— Дапамажы, парай!

Сказала мне шаптуха:
— А бедненькі ты мой,
не здыме гэту скруху
ніякі ўжо настой,
ні шэпты,
ні прысмута...
Ад нагавораў злых
адзін ратунак —
з любай
пасцелька на дваіх.

## САНЕТ АДКРЫТАСЦІ

Я апынуўся ў цераме лясным,
там на траве ты, любая, ляжала.
Цябе ваўчыца пільна вартавала,
цікуючы за поступам маім.

Празрыстае і лёгкае, як дым,
нічога не хавала пакрывала
і толькі сверб юрлівы распаляла...
І справіцца не мог ужо я з ім.

У бітвах праяўляюцца героі.
Пайшоў у наступленне я без зброі,
упэўнены: ваўчыца не кране.

І звер глядзеў з наіўнасцю прыроднай,
як прагна я табою авалодаў.
...Шкада,
што адбылося гэта ўсё ўва сне...

* * *

Абяцала ты мне:
«Кожнай ноччу
да цябе прыходзіць буду ў снах,
цалаваць зажураныя вочы,
пальцамі гуляць у валасах...»

Адгарэла жоўтым жарам лета.
Выцвіў небасхіл маіх надзей:
не прыходзіш ноччу да мяне ты,
не прыходзіш да мяне і ўдзень.

Мусіць, там, у беспрадметным свеце,
ёсць адна труна — адна турма,
а імкненне ў смерць або ў бяссмерце
там няма.
Нічога там няма!..

## ЧЫТАЮЧЫ СЕКСУАЛЬНЫ РАМАН

Напэўна, на ўсім свеце я —
самы няшчасны мужчына.
За ўсё маё жыццё
мне не сустрэлася жанчына,
якая б,
спяшаючыся хутчэй распрануцца,
каб легчы са мной у ложак,
таптала б прынесеныя мной кветкі.

Мае жанчыны звычайна рабілі так:
з удзячнасцю бралі кветкі,
замілавана нюхалі іх,
цалавалі мяне ў вусны,
ставілі кветкі ў вазу
і доўга любаваліся імі.

Пасля, магчыма, было і нешта такое...
Але я дробязей не помню,
для мяне галоўным было тое,
што мае кветкі
прыносілі радасць каханай.

Можа, я —
самы няшчасны мужчына на свеце?
А можа,— і самы шчаслівы?

## КАЛІ Б ЦЯБЕ ЗАСЦІГЛА БУРА

**Паводле Роберта Бёрнса**

Калі б цябе засцігла бура
дзесь на зыры,
дзесь на зыры,
я б куртку скінуў, ад залевы
цябе прыкрыў,
цябе прыкрыў.

Калі б віхор нядолі злоснай
цябе спаткаў,
цябе спаткаў,
грудзьмі б я засланіў надзейна
і поруч стаў,
і поруч стаў.

Калі б нас люты лёс закінуў
у дзікі край,
у дзікі край,
з табой мне сумная пустыня
была б як рай,
была б як рай.

Калі б я стаў царом Сусвету
і ты — мая,
і ты — мая,
нібы алмазам, ганарыўся б
табою я,
табою я.

## ДЗЯЎЧЫНА Ў АКНЕ

Пад акном цвітуць вяргіні,
пунсовыя, як святочныя сцягі.
А ў расчыненым акне
ружай цвіце дзяўчына,
усміхаецца ўсім прахожым,—
значыць, закахалася ў аднаго.
Хто гэты шчасліўчык? —
не пытайся і не гадай:
хутка грымне вяселле
і яму ўжо не ўдасца
быць інкогніта.

# ДВА БУКЕТЫ НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ

## ПОЛЬСКІЯ

* * *

Стаяла я ў гародзе
па калена ў водзе.
Стоячы, глядзела,
дзе мой Ясю едзе.

Едзе Ясю, едзе
не ў нашы вароты,
ка мне не заехаў,
да беднай сіроты.

Прыязджай у сваты,
ёсць у мяне хата,
ручнік вышываны,
на стале сняданак.

Малады мой Яська,
добры ў яго бацька,
рада ўсё аддаць я,
каб сваім назваці.

Цэлы пост не ела б
я харчоў скаромных,
каб згуляць вяселле
Сёмухай зялёнай.

* * *

Ехаў я з пагорка,
ехаў я з пагорка
паўз маленькі дворык.
Ой, і спадабалася мне
падушачак горка!

Ой, не так падушкі,
ой, не так падушкі,
як чорныя вочы.
Калі ўдзень я іх не ўбачу,
дык не сплю і ўночы.

Буду ліст пісаць ёй,
буду ліст пісаць ёй,
буду маляваці,
каб назваў млынар багаты
мяне сваім зяцем.

Не для пса кілбасы,
не для пса кілбасы,
не для кошкі клёцкі...
Не для цябе, хлопча бедны,
млынаровы дочкі.

* * *

Як пад лесам, на пакосе...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Як пад лесам, на пакосе,
там дзяўчына траву косіць.
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Накасіла, назграбала...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Накасіла, назграбала,

хлопцу Ясю загадала,
ку-ку, ку-ку, ку-ку:

— Хадзі, Ясю, ў копы складай...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Хадзі, Ясю, ў копы складай,
на мяне ж ты не заглядай.
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Мне матуля загадала...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Мне матуля загадала,
каб з табой не жартавала.
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Ясь жа траўку не складае...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Ясь жа траўку не складае,
на Марысю паглядае.
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Ляжыць траўка на пакосе...
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Ляжыць траўка на пакосе,
а Марыся сына носіць.
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

* * *

Ой, стаіць калодзеж
на Дамброўскім полі.
Хто там едзе, ідзе,—
коніка напоіць.

Ясь каня паіў там,
Кася воду брала.

Заспяваў Ясь песню,
Кася зарыдала.

Не плач, не плач, Кася,
слёзы — не вадзіца,
трэ было не бегаць
у лес па суніцы.

Трэ было не бегаць
роснаю сцяжынай,
калі прыязджаў я,
сустрэўся з дзяўчынай.

— Як жывеш, дзяўчына?
О, дзень добры, панна!
Куды ж ты падзела
свой вянок так рана?

— Павесіла ў лесе
яго на дубочак,
а як вясна прыйдзе,
зацвіце вяночак.

* * *

Пад лесам, пад борам
ветры кружылі.
Спала там дзяўчына —
ды разбудзілі.
        Ой, дана, дана, ой, дана, дана.
        Спала там дзяўчына —
        ды разбудзілі.
Хто ж мог дзяўчыне
сон патрывожыць?
Той, хто закахаўся,—
Янка прыгожы.
        Ой, дана, дана...

Раскілзай каня ты,
каб збярог сілы.
Не кахай дзяўчыну,
якой нямілы.
Ой, дана, дана...
Не трэба той рыбы,
дзе косці без мяса.
Не трэба кахання,
што без адказу.
Ой, дана, дана...
Не адна ды ў лузе
ружа з шыпамі.
Не адзін на свеце
бацька з сынамі.
Ой, дана, дана...
Не адну пушынку
развее вецер.
Не гэты, дык іншы
у сваты прыедзе.
Ой, дана, дана, ой, дана, дана.
Не гэты, дык іншы
у сваты прыедзе.

* * *

А пад борам, а пад борам,
пры той ляшчыне
граў я песні на жалейцы
сваёй дзяўчыне.

Шнур бурштынавых караляў
шыю абвівае.
Запытаўся я ў дзяўчыны,
ці мяне кахае.

— Не кахаю цябе, Ясю,
бо ты ў карты граеш.

— А я цябе браць не буду —
чорны ногі маеш.

— А я пайду да Дунаю
і вымыю ногі,
а ты ў карты ўсё прайграеш
і будзеш убогі.

* * *

Дзе ж вы, коні вараныя,
дзе вы, мае лейцы?
Дзе ж ты, дзе, мая каханка,
дзе ты, маё сэрца?

Дзе ж ты, тая крынічанька,
у якой купаўся?
Дзе ж ты, тая дзяўчыненька,
што я заляцаўся?

А ўжо ж тую крынічаньку
глеем зацягнула.
А ўжо ж мая дзяўчыненька
іншага цалуе.

## ЧЭШСКІЯ

* * *

Шырокай дарогай
крочым і не збочым.
Соты раз мне любы
кажа: «Добрай ночы!»

Дзякуй яму, дзякуй
за добрыя ночы,—

выспацца не змогуць
зноўку мае вочы.

* * *

Ой, падкоўкі мае
іскры б выкрасалі,
каб у садзе да дня
з любай не стаялі.

Ой, падкоўкі мае
з кладненскае сталі,
вы, здаецца, сваё
ўжо адтанцавалі.

Ой, падкоўкі мае
ды з прыстукам звонкім.
Пападуся хутка я
пад абцасік жонкі.

* * *

У даліне пры каліне
сарна з рэчкі воду п'е,
паляўнічы ўзяў на мушку,
ой жа, ён яе заб'е!..

Не страляй ты, паляўнічы,
тая сарна — гэта я,
закляла мяне так злосна
маці родная мая.

Закляла мяне за тое,
што не слухаю яе:
багачам даю адмовы,
замуж хачу за цябе.

* * *

Дзве гары і дзве даліны,
пойдзем, дзевачкі, ў маліны.

На малінах сонца ззяе,
прыгажосць дзяўчат палае.

— Ты, Яношак, не журыся,
прыгажосцю той дзівіся.

— Калі б я на ўсё дзівіўся,
дык даўно б з дарогі збіўся.

* * *

Я ўжо ніву гэтую не даару,
бачыш, вунь заходзіць сонца за гару.
Дык няхай мой конік траўку паскубе,
буду цалаваць я, любая, цябе.

* * *

Над Мывай зорка ў небе сінім,
а ў суседа пекная дзяўчына,
як убачу, дык ажно нямею,
да багатай сватацца не смею.

Чаму, божа, літасці не маеш,
беднякоў, такіх, як я, ствараеш?
Маю я адно багацце — сэрца,
не набыць другога мне да смерці.

Вее вецер, круціць завіруху,
навявае мне на сэрца скруху.
Пашкадуй мяне, маё каханне,
слоўца мне скажы на развітанне.



Я ж цябе ўпікала, я ж табе казала:
хочаш, каб кахала, не стой з кім папала;

не стой з кім папала, не трывож мне сэрца,
кляўся ж, абяцаўся ты любіць да смерці.
А цяпер свае ты клятвы забываеш,
з іншымі танцуеш, з іншымі гуляеш.

Не хавай пагляду, не вядзі ў прысады,
я рашучай стану, не дарую здрады.
Выйду на гулянку, завяду каханка,
буду цалавацца з ім я аж да ранку.



Разлука, разлука —
сумная прыгода.
Пакідаеш ты мяне
мо і назаўсёды.

Разлука, разлука
пад зялёным дубам.
Сустракацца болей тут
мы з табой не будзем.

Разлука, разлука
на пустой дарозе.
Дзе кахання ўжо няма,
не памогуць слёзы.

Ой, пайду я полем,
далінаю голай,
каб цябе хутчэй забыць,
зноўку стаць вясёлай.

* * *

Танцуй, танцуй, весяліся,
толькі грубку не зваліце.
Добра з грубкай у мароз,
не ва ўсіх жа коўдра ёсць.
        Тра-ла-ла-ла, тра-ла-ла-ла,
        тра-ла-ла-ла, тра-ла-ла!..
Стаіць салдат на пасту
у падраным шыняльку,
яго вецер прадзімаў,
ноччу холад данімаў.
        Тра-ла-ла-ла...
Камізэльку мела я,
ды цыганцы аддала.
Цыганачка малада,
прычаруй мне малайца.
        Тра-ла-ла-ла...
Як я буду чараваць,
мусіш мне ты нешта даць:
залатоўку ці гарсэт,
будзе хлопец, як той цвет.
        Тра-ла-ла-ла...
Пабіў цыган цыганку
па зялёным жупанку,
а цыганка цыгана
качаргою выцяла.
        Тра-ла-ла-ла, тра-ла-ла-ла,
        тра-ла-ла-ла, тра-ла-ла!

## ЭВА

У карціннай галерэі
шмат партрэтаў каралеў,
ды ніхто з іх не сагрэе,
калі ты панік, ззалеў.
Не з карціны каралева —
сніцца мне жывая Эва.

Ходзіць, некаму смяецца,
дорыць ласкавы пагляд.
А ў мяне згарае сэрца,
і ўсе думкі — неўпапад.
Я ж — не камень і не дрэва,
да мяне ўсміхніся, Эва!

Граюць весела музыкі
на пляцоўцы паміж ліп,
там з прысвістам, віскам, гікам
хлопцы скокі пачалі.
Полька ўправа, полька ўлева,—
не са мной танцуе Эва.

## ГЭТА ВЕЛЬМІ ПРОСТА

Хто кахае — той жыве,
гэта вельмі проста...
Месяц ходзіць па траве,
па траве няроснай.

А ў сутонні між прысад,
між ствалоў кляновых
вучыцца чытаць пагляд
хлопец чарнабровы.

Падрасце — пазнае смак
вернасці і здрады.
Гэта ж вельмі проста так:
месяц,
ноч,
прысады...

## ПІСАЎ ПАЭМУ Я...

*Пісаў, сябры, паэму я ў застойныя гады*
*аб тым,*
*як моладзь з вёскі ўцякала ў гарады,*
*і як было дзяўчатам і хлопцам маладым*
*нялёгка прыжывацца ў тлуме гарадскім —*
*без бацькі і без маткі сярод людзей чужых*
*і спаць дзе давядзецца,*
*і жыць як набяжыць.*
*На працу хлопцаў бралі,*
*бралі і дзяўчат.*
*Начуй жа на вакзале,*
*не мар пра інтэрнат,*
*бо ў інтэрнаце месца —*
*ці лета, ці зіма —*
*па камендацкіх звестках*
*ніводнага няма..*

*Герой жа мой, Віталі,*
*не без турбот-прыгод,*
*на працу ўладкаваўся*
*на Трактарны завод.*
*Быў працавіты, шчыры,*
*не ўмеў хлусіць, бузіць,*
*стараўся брыгадзіру*
*ва ўсім ён дагадзіць;*
*і брыгадзір прыкмеціў,*
*над ім апеку ўзяў,*
*у інтэрнат хлапечы*
*Віталя ўладкаваў.*

*Не тое, каб — як дома,*
*але ж — не на двары,*
*знайшліся там, вядома,*
*суседзі і сябры:*
*жылі ў адным пакоі*
*пяць хлопцаў халастых,*
*Віталь усё ў паэме*
*расказваў нам пра іх —*
*як жылі,*
*што рабілі,*
*аб чым марылі,*
*пра што гаварылі,*
*нічога не ўтойваў*
*і не выдумляў,*
*такія вось сцэны*
*ён нам маляваў.*

## У ВАНІ ЁСЦЬ БАГАТЫ ДЗЯДЗЬКА

Перад палучкай давядзецца
ізноў круціць-вярцець мазгой,
каб раздабыць траячку дзесьці
хаця б на чай ды хлеб з камсой.
Да дзядзькі ў госці сходзіць Ваня,
ягоны дзядзька — хлебасол,
запросіць ён памыцца ў ванне,
а там пасадзіць і за стол,
раскажа процьму — толькі слухай! —
усё ж вучоны як-ніяк:
палошча шлункі не сівухай,
п'е толькі дарагі каньяк,
ды з халадзільніка шчэ піва
дастане пляшку, а то й дзве,
і закусь выставіць надзіва:

салату,
з бульбай селядзец,
каўбаску
ды грыбкі ў смятане,
катлеты,
свежыя гуркі...

Эх, Ваня, Ваня,
ў рэстаране
ты закажы абед такі,—
прасадзіш верную дзесятку,
а то яшчэ і больш таго...

І хоць не любіць Ваня дзядзьку,
ды пойдзе ў госці да яго
і возьме з нас шчэ аднаго,
так, для кампаніі. Нібыта
заскочылі вось мімаходзь,
бо з сябрам тут гуляў паблізу...

Хадзіў аднойчы з ім і я.
Нічога так, як мне здалося,
інтэлігентная сям'я.
Сам Віктар Цітавіч салідны,
мажны і сыты калабок,
красуня-жонка, «проста Ліда»,
сын-пяцікласнік Ігарок...
Трохпакаёвая кватэра:
блішчыць паркет,
трашчыць буфет,
цыратай абабіты дзверы
у таямнічы кабінет,
дзе творыць ён свае трактаты —
мантаж забытых дум чужых,
у класікаў стрыжэ цытаты,
сіропам разбаўляе іх...

У Вані некалькі ёсць кніг,
напісаных вучоным гэтым:
«Прыступка «па» і дзеясловў»,
«Займеннік»,
«Якасны прыметнік»
і «Суфіксы складаных слоў».
Баюся я тут памыліцца,
ды ўсё ж і не магу маўчаць:
вось так з займеннікаў карміцца,
вучоным званнем ганарыцца,—
дык лепш зусім і не вучыцца,
а йсці сахой зямлю араць.

— Ну не кажы,— злуецца Грыша.—
Дзіцячы розум у цябе.
Мо сапраўды ён глупства піша,
затое грошыкі грабе.
— Няўжо так многа зарабляе?
— А то ж!
— Умее, гад, пажыць...
— Яго сям'я нястач не знае,—
гаворыць Ваня і ўздыхае,—
на кніжцы тысяч сем ляжыць.

Ён дзядзьку больш за ўсіх зайздросціць
і марыць сам вучоным стаць:
— Каб мне жыццё такое, хлопцы,
я не хацеў бы й паміраць!

— Навука — усяму аснова...
— Не кожнаму вучоным быць...

І пачынаецца размова
пра тое, як на свеце жыць,
каб і спакойна,
і багата,

і горб не гнуць свой у дугу,
не ад зарплаты да зарплаты —
а на шырокую нагу.

Старэйшыя, яны больш знаюць.
І хітрай мудрасці людской
мяне ахвотна павучаюць,
перадаюць мне вопыт свой.

*Застойныя, застольныя, запойныя гады...*
*Рэдактар маёй кніжкі быў не малады,*
*а пажылы мужчына, які прайшоў вайну,*
*узяў аловак сіні, глыбока уздыхнуў:*
*— Навошта разважанні ўсе гэтыя,*
*скажы? —*
*увесь раздзельчык сінім*
*ён тут жа абкружыў.—*
*Вучоны ёсць вучоны, паэтам будзь, паэт,*
*няхай твае героі пазнаюць толкам свет,*
*тады дадуць ацэнку, не людзям, а сабе,*
*які удзел прымаюць яны ў той барацьбе,*
*што рухае грамадства*
*да новых светлых дзён.*
*Няхай працуюць хлопцы —*
*і праца дасць ім плён...*

## СЯБРЫ ВУЧАЦЬ МЯНЕ ЖЫЦЬ

### Ваня

Тут, браце, так: не будзь варонай,
сам клапаціся пра сябе
па дыялектыкі законах,
што ўсе мы ў вечнай барацьбе.
Шмат хочаш мець — працуй сумленна,
павагі хочаш — заслужы.

А чалавечаму хаценню
няма канца, няма мяжы.
Учора еў ты хлеб, салаку,
а сёння — піва з шашлыком,
захочаш заўтра булкі з макам
ці маннай кашы з малаком.
Ды з неба манны бог не скіне,
бо й бога, знаеш сам, няма,
і не галушка — нават кілька
не прыляціць у рот сама.
І толькі той набытак мае,
хто ўмее дбаць і зберагаць,—
вось гэта запаведзь святая,
яе не трэба забываць.

## Грыша

Лягчэй за ўсіх таму жывецца,
хто не дзярэцца на ражон,
паціхеньку ўсяго даб'ецца,
дастане ўсё без крыку ён.
Яму — кватэра,
і пуцёўка,
і цвёрды месячны аклад,
ды прагрэсіўка,
прэміроўка,
экскурсія,
дзіцячы сад...
Начальства для таго й начальства,
каб быць заўжды на вышыні.
З ім прывітайся,
не спрачайся,
яно жартуе — ты ўсміхайся,
лютуе — галаву сагні.
Бо як ты ні круці — з паклонам
калісьці прыйдзецца прыйсці,

як той казаў, закон — законам,
ды ўсё здараецца ў жыцці.

Валера

Начхаць мне на тваё начальства,
паклоны біць я не люблю.
На скварку хопіць і на чарку
таго, што працай зараблю.
І трэба гонар мець рабочы,
рукам мазольным знаць цану,
каб рэзаць праўду-матку ў вочы,
падгерцам не згінаць спіну.
Сваім угодніцтвам, маўчаннем
даб'ешся поспехаў? Наўрад.
Кідае кус табе начальнік
і думае: «Які ж ты гад!
Сваіх не маеш меркаванняў,
вужакай трэшся каля ног,
а я злячу — і ты адстанеш,
на іншы папаўзеш парог».
Падліз ніхто не паважае,
з агідаю глядзяць на іх,
калі даюць ім што, дык з жалю...
А вось яршыстых і крутых
баяцца, каб чаго не ляпнуў,
не стукнуў-грукнуў кулаком,
бо не заткнеш такому зяпу
рублём
ці нейкім там значком.

Пеця

Вы ўсе не боцманы — салагі
і ў спрэчку лезеце дарма:
ні свежай думкі,
ні развагі,
ні творчасці,

ані адвагі,
ні развароту,
ні размаху
у вашых довадах няма.
Разводзіце тут жахі-страхі:
адзін — маўчы!
Другі — крычы!
А трэці — заслужы павагу...
Саміх жа трэба вас вучыць.
Ці вы сляпыя,
ці дурныя?
Не бачыце, які наш век,—
праславіў рукі залатыя
не толькі ў песні чалавек.
Вы паглядзіце, хто ў пашане,
ну, скажам, на заводзе ў нас?
Вы-со-ка ква-лі-фі-ка-ва-ны
рабочы.
Вось вам і адказ
на ўсе наступныя пытанні:
Пра што вам дбаць?
Што набываць?

Крычы,
юлі
і прытварайся
адданым, сціплым — ні храна!
Калі на працы ты не майстар,—
табе ўсё роўна грош цана!
Начальнік наш — ні пан, ні барын,—
ўчарашні токар ці каваль.
Яму не трэба тары-бары,
яму прадукцыю давай!
Ён гляне раз на тваю працу
і бачыць, спец ты ці не спец.
Вось да такога падлізацца

не зможа ні адзін хітрэц.
Ды і каму гэта цікава —
ці ты маўчун,
ці гаварун?
Не языком бярэцца слава,
а рупнасцю умелых рук.
Хто залатыя рукі мае
ды галаву яшчэ да іх,
той з неба манны не чакае,
к начальству сцежак не шукае,
не трэцца ля дзвярэй чужых
і не ганяецца за шчасцем,—
свайго ён лёсу гаспадар,
як кажуць, сам сабе начальства,
сам для сябе і бог і цар.
Я ў гэтай справе — боцман-лоцман,
таму і раю шчыра вам,
пакуль вы маладыя, хлопцы,
не дайце зачарсцвець рукам!
— *Так, так...*—
*рэдактар лоб нахмурыў,*—
*Тут нейкая задума ёсць.*
*Ды пішаш дужа ты з натуры,*
*а ўспомні, дружа маладосць:*
*ці многа думаў ты пра тое,*
*як жыць з начальствам? Пачакай!*
*Кіпела цела маладое*
*пачуццямі, што цераз край*
*лілося,*
*пенна булькатала,*
*не ведала парой мяжы...*
*Вось пра каханне,*
*заляцанні*
*сваіх герояў*
*і пішы!*

Г р ы ш а:

Асноўнае — твой выгляд знешні,
візітны, так сказаць, партрэт.
Перш-наперш гарнітур, канешне,
кашуля,
кепчык ці берэт,
шкарпэткі,
гальштук,
чаравікі,
гадзіннік,
запінкі,
зажым,—
усё па модзе,
ды без «крыку»,
у норме, сціпла...
А затым —
прычоска.
Нечага ўсміхацца,
тут трэба талент мастака:
каму хапае прылізацца,
каб валасок да валаска,
каму ж, наадварот, чупрыну
так распушыць, як сена клок,
ці пасмачку нядбайна скінуць,
каб адцяняла чысты лоб...
Ну і без лішняе навукі
пра туалет напомню вам:
пачысціць зубы,
вымыць рукі
ажно да локцяў,
шыю,
твар...
Паходка.
Гжэчныя манеры:

«Прашу...»
«Дазволь...»
і ў ручку — бусь...
Ды адчыніць дзяўчыне дзверы,
зняць паліто
і апрануць...
такім вось дэндзі заявіся
ты да дзяўчат —
і ўжо лічы,
што іх увагі ты дабіўся,
да сэрцаў падабраў ключы.

Ваня:

Яно вядома, па адзенні
страчаюць,
ды не ў ім сакрэт.
Дзяўчына — тонкае стварэнне.
Характар,
розум
і сумленне —
вось для яе ўвесь твой партрэт.
Наканавана ёй прыродай
калісьці мацеркаю стаць,
быць прадаўжальніцаю роду,
дзяцей раджаць
і гадаваць.
Таму такі жывучы дужа
даўнейшы звычай у жанчын —
кахаць прыгожых,
дужых,
мужных,
разумных,
дзелавых мужчын.
Прыгожых?
Так. Не для прыліку
сказаў,— тут доля праўды ёсць.

Ды вось якая закавыка:
а што такое — прыгажосць?
Чаму адной ты любы-мілы
і абыякавы другой?
Ёсць у дзяўчат сваё мярыла,
ёсць ідэал мужчыны свой.
Прыгожы той, хто чысты сэрцам
і ў светлы дзень,
і ў чорны дзень,
хто верны будзе ёй да смерці,
не здрадзіць
і не падвядзе.
Вось ты ідзеш з ёй на спатканне
з адным — вядомым нам — жаданнем,
яна ж глядзіць далей, глыбей:
ты для яе ўжо муж вакантны
і бацька будучых дзяцей.
Ёй уяўляецца карціна —
як будзеце з ёй разам жыць,
якім ты станеш сем'янінам:
ці будзеш ты кахаць-любіць,
ці будзеш біць,
гарэлку піць
ды голадам дзяцей марыць...
І мала, брат, кашулі белай
ды модных — з бомамі — штаноў,
каб хтось табе душу і цела
даверыў хоць на адну ноч.

В а л е р а:

Для гарадскіх дзяўчат не трэба
тваёй маральнай чысціні.
Навошта сокал той, што ў небе?
Ім дай сініцу на зямлі.
Абед шыкоўны ў рэстаране —
вось мара іх, вось іх жаданне,

найлепшы доказ і прызнанне
тваёй адданасці, кахання,
духоўнай блізкасці пароль.
А там і пойдзе абдзіранне:
праз дзень вячэрняю парой
з табой прызначыць Таня-Маня
у рэстаране зноў спатканне,
дзе будзе румбу танцаваць,
тарты,
піражныя знішчаць,
кактэйлем смагу праганяць...
Каб не падумаў, што пустышка,
аднымі танцамі жыве,
на тыдзень зробіць перадышку,
прымусіць, каб чытаў ёй кніжку
у лесапарку на траве.
Туману напускае ў вочы,
што паважае люд рабочы
і любіць цырк,
тэатр,
кіно,
вучыцца, жыць сумленна хоча...
Паверыш — і закруціць зноў:
гулянкі-п'янкі да паўночы
і на таксі вязі дамоў.
Зацягне хутка ў павуціну,
нібы сляпога авадня,
і ты ўжо будзеш ёй павінен
купляць даруначкі штодня:
французскія духі
і кветкі,
цукеркі,
шмуткі,
бранзалеткі,
на шыю белую — кулоны,
на ножкі стройныя — капроны,

на ручку — персцень залаты,
нібыта шах персідскі ты.

Пеця:

Ды не палохай ты ўжо хлопца,
каб у сяло не ўцёк назад.
Я ў гэтай справе — боцман-лоцман...
Хапае ўсякіх тут дзяўчат.
Ёсць абдзіралаўкі-пустышкі?
Вядома, ёсць! І ты для іх
прыдатак да ашчаднай кніжкі...
Але ж удосталь і такіх,
якім начхаць на славу, грошы,
на твой капрон,
пярсцёнак той.
Абы мужчына быў харошы,
за ноч, што правядзе з табой,
сама паставіць паўлітэрку,
яешняй пачастуе ўсмак,
а раніцою на пахмелку
ў кішэнь шчэ пакладзе траяк.
Не адзіночкі-развядзёнкі,
не ўроды-перастаркі...
Не!
А прыгажуні-маладзёнкі,
што абамлееш, як зірнеш.
На выгляд — недатыка-пава,
гарыць шчака, нібыта мак...
Я — боцман-лоцман гэтай справы
і з практыкі ўжо знаю, як
даверу іхняга дабіцца,—
ім трэба толькі знак падаць,
што ты святую таямніцу
умееш, бы ў труне, трымаць.
Яны не любяць слоў парожніх
і залацанняў паказных,

бо для запасу ёсць у кожнай
на ўсякі выпадак жаніх —
такі, як ты, лапух-пятруша,
балда-гарэза, целяпень,
што ўтрэскаўся ў яе па вушы
і следам ходзіць, нібы цень,
не спіць начамі, піша вершы:
«Прымі майго кахання жар...»
і думае, што будзе першы
душы і сэрца валадар.
А першым быў даўно ўжо хтосьці,
і быў другі,
і трэці ёсць...
Так прывыкае з маладосці
на карту ставіць прыгажосць.
Як нагуляецца ў ахвоту
ці нагуляе «гу-кугу»,
прытворна скажа тому боту:
«Жыць без цябе я не магу...»
Лапух ад шчасця аж падскочыць,
пацягне ў загс яе скарэй.
У хмельным тлуме першай ночы
нічога і не разбярэ.
І будуць жыць:
яна — ўспамінам
аб тых, былых. Дый завядзе
шчэ новых і не раз падкіне
чужую дочку там ці сына...
А ён? І вухам не вядзе.
Яму здаецца, што на свеце
ён шчаслівей за ўсіх мужчын:
і жонка верная,
і дзеці
растуць, у бацьку ўдаўся сын...
У нашым горадзе іх процьма —
такіх жанок,

такіх мужоў.
Я ў гэтай справе — боцман-лоцман,
і вы паверце мне ужо.

---

Я слухаў гэтыя парады,
усё сабе на вус матаў,
бо мне хацелася да праўды
праз іх туманныя тырады
сцяжынку неяк пратаптаць.

Гавораць нібыта і жартам:
«Хі-хі, ха-ха,
ха-ха, хі-хі...»
Ды апраўдаць імкнуцца ўпарта
свае нястачы і грахі.

*

*Рэдактар аж падскочыў:*
*— Чакай, чакай, паэт!*
*Ты пішаш пра рабочых*
*ці пра злачынны свет?*
*Адкуль такія хлопцы,*
*дзе бачыў іх, скажы?*
*Зусім не камсамольцы,*
*а нейкія смаўжы,*
*распуснікі,*
*нахабцы,*
*садысты,*
*пашлякі.*
*Былі б — амерыканцы,*
*буржуйскія сынкі...*
*А гэта ж — нашы дзеці,*
*заўтрашні наш дзень.*

*якім з калыскі свеціць*
*кастрычніцкі прамень.*
*Спяваць ім, весяліцца*
*ў эфіры родных сфер*
*і шчыра ганарыцца*
*Радзімай — СССР.*
*Яны ж... занадта рана*
*пазналі секс, віно...*
*Схадзіў бы лепш з каханай*
*герой твой у кіно.*

### У КІНО

Святло патухла. На экране
пабеглі кадры, як заўжды:
у ракурсах — дамы і краны,
камбайны,
домны,
паязды.
Паважна йдзе па горных схілах
бугай-вытворнік, рэкардсмен...
Ракета на падводных крылах...
Грудзямі стужку рве спартсмен...
Салаку выгружае траўлер...
Па полю крочыць аграном...
І «невысокі, хударлявы
юнак схіліўся над станком...»

Мы да малюнкаў свайго краю
прывыклі так з юнацкіх дзён,
што за навінку прынімаем
кіначасопісны шаблон.

Багатая Радзіма наша
на рыбу,
хлеб,

метал
і лес,
і аператару не скажаш:
«Браток, ты хлусіш, льеш ялей».
Не хлусіць ён!
Патрэб не мае
у лакіроўцы светлы дзень.
Бяда, што без душы здымае
ён шчодрае душы людзей.
Перадавік? Маральна чысты?
Давай хутчэй пад аб'ектыў!
Калі працуеш трактарыстам,
быць у мазуце мусіш ты;
калі рыбак — залазь у робу;
цясляр — з сякераю на зруб;
а хлебароб — з усмешкай пробуй
пшанічны каласок на зуб.
Мільгаюць на экране твары
людзей не блізкіх, не чужых...
Аб чым хто думае і марыць,
што адчувае кожны з іх? —
Пра гэта век табе не зведаць,
і ясна толькі тут адно:
не пакідае ў сэрцы следу
дакументальнае кіно.

Мы ж фільм прыйшлі глядзець
мастацкі.
О, гэта іншы каленкор!
Інтрыгай б'юць цябе знянацку,
страляюць «перламі» ва ўпор.
Да фактаў дня тут не прыкуты
ні сцэнарыст,
ні рэжысёр,—
ляпі трохкутнік ці шматкутнік,
выводзь героя на прастор.

Мы знаем той «прастор» экранны:
калгасны клуб,
рачны паром,
бальніца,
зала рэстарана,
аэрапорт,
радзільны дом...
І з фільма ў фільм вандруюць сцэны:
на беразе — Яна і Ён,
Ён і Яна ідуць па цэху,
праводзіць Ён Яе ў вагон...
Кагось прамовай тэлефоннай
начальнік хоча асадзіць...
За парушальнікам закону
дружыннік гоніцца нястомна,
а жулікі ў каморцы цёмнай
барыш не могуць падзяліць...
Адзін з іх прыйдзе з пакаяннем
і следчых навядзе на след,
і хутка ўсё на месца стане:
брыгада выканае планы,
і сцежка прывядзе каханых
у загс (а ў вёсцы — ў сельсавет).
— *З чаго паэце, зубаскаліш? —*
*рэдактар заскрыпеў пяром.—*
*На фестывалі ў тых жа Канах*
*і мы свае прызы бяром.*
*Дык ёсць жа вечныя сюжэты*
*ў літаратуры, браце мой,*
*і пішуць мастакі партрэты*
*па кампазіцыі адной,*
*ўжо не кажу я пра балеты,*
*пра оперы і аперэты,*
*дзе ўсё старое, з барадой.*
*Раздзельчык гэты я здымаю,*
*сваё на гэта права маю.*

Па скверыку вясенняму
іду я спакваля.
Гарацъ агні вячэрнія,
і ценямі-спляценнямі
услана ўся зямля.

Не заўважаю холаду
і кропель дажджавых.
Мне весела і молада,
ступаю крокам волата
па ценях трапяткіх.

— Віталь! — ахрыплым голасам
хтось з цемрадзі заве.
Гляджу: сядзіць пад голлямі,
спіну сагнуўшы полазам,
на лаўцы чалавек.

Дык гэта ж Віктар Цітавіч!
Слязінка па шчацэ...
— Чаго адзін сядзіце вы?
Хутчэй дамоў ідзіце вы,
замерзнеце яшчэ...

— Чаго я сяджу самотны
у гэтым прамоклым скверы?
Бо восень прыйшла, мой дружа,
прыйшла ў маё сэрца восень,
заўчасная восень прыйшла.

Бачыш, калыша вецер
голыя мокрыя дрэвы,
за дрэвамі дом смяецца,
сотнямі вокнаў смяецца
шматпавярховы дом.

Варта падняцца на ліфце,
націснуць знаёмую кнопку,—
гасцінна званок адгукнецца,
і дзверы адчыніць Яна.

Тая, якую калісьці
лічыў я самай-найсамай,
тая, імя чыё песняй
гучала ў сэрцы маім...

З чаго пачалося ўсё гэта?

Гуляла на лузе сонца,
пад сонцам гулялі кветкі,
за кветкамі гналіся пчолы,
а я даганяў Яе.

Дагнаў,
абхапіў рукамі,
моцна трымаў рукамі,
баяўся, каб зноў не пабегла,
не знікла, як мроя, як сон.

...Звінелі вясельныя чаркі,
крычалі сябры нам: «Горка!»
Сябры нам жадалі шчасця,
жадалі дзяцей і ўнукаў,
дзялілі сябры нашу радасць.
А я падзяліць не хацеў.

Трымаў за руку сваё шчасце,
нібы адабраць хто збіраўся,
нібы не сябры, не сяброўкі —
супернікі, ворагі злыя
сядзелі са мной за сталом.

А шчасце было несапраўдным,
падманным было тое шчасце.
О, як праглядзела ты, сэрца,
што іншыя побач жаданні,
што іншыя побач імкненні,
што побач — чужы табе, сэрца,
варожы табе чалавек.

Прыняў ён аблічча каханай,
мяне асляпіў сваім бляскам,
моцна скруціў мае рукі,
на плечы мае наваліўся
і грудзі здавіў ланцугом.

Няма ад яго паратунку
нідзе — ні ў гасцях, ані дома,
няма ад яго паратунку
ні ў чым — ні ў гульні, ані ў працы,
няма ад яго паратунку
ніколі — ні ноччу, ні ўдзень.

Не справіцца з ім аднаму мне,
не справіцца век аднаму з ім,
хоць я — не слабак, не калека,
не спраўлюся з ім я ніколі...
Сяброў жа ў мяне няма.

Няма? А былі ж калісьці,
за чаркай кляліся ў дружбе,
дзялілі са мною радасць,
а гора не хочуць дзяліць.

Вунь паглядзі, мой дружа,
за дрэвамі дом смяецца,
сотнямі вокнаў смяецца
шматпавярховы дом.

Варта падняцца на ліфце,
націснуць... націснуць кнопку,
знаёмую кнопку... націснуць...
Ды я... Ды я... не.. не... не...
не пайду... Во!..

А з рота, нібы з патрубка,
струменіць перагар.
Адчуўшы нейкі сверб ў руках,
схапіў яго я загрудкі
і крыкнуў проста ў твар:

— Вы пойдзеце! Не сорамна
на жонку ліць брыду?!.
Кватэра ў вас прасторная,
адзеты ўсе, накормлены...
— Цс-с-с! Добра, я пайду.

Падняўся нетаропка ён,
мне буркнуў:
— Ббудзь здароў!..
І хісткаю паходкаю
насустрач ветру хлёсткаму
пасунуўся дамоў...

— *Ну і ну!* —
*рэдактар пачухаў за вухам.*—
*Напаіў вучонага сівухай.*
*Для чаго? Ты ж пішаш паэму*
*не на антыалкагольную тэму.*
*Гэты раздзел з паэмы тырчыць,*
*раю яго скараціць.*

А ў інтэрнаце ўсё пра тое:
пра лёгкі хлеб,
салодкі секс,

сябры з парожняга ў пустое
пераліваюць пакрысе.

Грыша

Лягчэй за ўсіх таму жывецца,
хто не дзярэцца на ражон...

Пеця

А як, скажы, такі завецца?
Прайдоха і падліза ён.

Ваня

Набытак толькі той і мае,
хто ўмее дбаць і зберагаць...

Валера

Скупых ніхто не паважае,
а на багацце мне начхаць!..

Грыша

Ну, не кажы, патрэбны грошы
на вопратку ды на кіно...

Пеця

Абы мужчына быў харошы,
дык будзе закусь і віно,
пасцелька цёплая...
Эх, хлопцы,
учора кралечку сустрэў!..
Я ў гэтай справе боцман-лоцман,
не аднаго сабаку з'еў.

Ваня

Дзяўчына — тонкае стварэнне,
глядзіць не толькі на адзенне...

## Валера

Мне ўзяць дзяўчыну — не задача:
спярша рагоча, потым плача...

Так кожны вечар языкамі
лухту-бязглуздзіцу мянцяць,
з кагось хіхікаюць, а самі,
бывае, без граша сядзяць.
Вунь Ваня хоча быць багатым,
раскошу мець, не пэцкаць рук
і стаць, як дзядзька, кандыдатам
якіхсьці блытаных навук.
А дзядзька той, хоць і вучоны,
шчаслівы, думаеш? Ды не!
Яго ўжо круціць змій зялёны
і ад сям'і ў распусту гоніць,—
прадасца хутка Сатане.

А Грыша хоча быць прыгожым,
але ніколі прыгажосць
шчэ не куплялася за грошы...

Сваю Валера маладосць
за нюх табакі прапівае.
І Пеця, адстаўны марак,
хоць залатыя рукі мае
і сам сябе ўсё суцяшае,
што па-марскому наступае,
але паўзе назад, як рак.
Цікава слухаць іх парады.
Але жывём мы ўсе без ладу,
марнуем упустую час
. . . . . . . . . . . . . .

*Пісаў, сябры, паэму я ў застойныя гады,*
*была яна прысвечана хлопцам маладым,*

*хлопцам і дзяўчатам, з якімі побач жыў.*
*Рэдактар зухаваты паэму скараціў,*
*вось гэтыя раздзелы ў друк ён не пусціў.*
*Яны ляжалі ў скрыні пісьмовага стала,*
*пакуль пара застойная ў нябыт не адышла.*
*У час перабудовы,*
*галоснасці*
*і дзей*
*мацнее сіла слова,*
*і думак,*
*і надзей.*
*Прызналі мы адкрыта,*
*што ў нас былі і ёсць*
*зладзеі,*
*бюракраты*
*і living рознае жуллё:*
*валютчыкі,*
*хапугі,*
*пустыя званары,*
*і кралі-прастытуткі,*
*і дурні-дактары.*
*Цяпер мы іх выводзім*
*на чыстую ваду,*
*каб ажыла ў народзе*
*вера ў праваду!*

## НЯЎДАЛЫ ДЗЕНЬ

У начальніка Дзяўбалы
сёння дзень зусім няўдалы:
у турботах
і клапотах
праляцеў ён неўпрыкмет.
І не змог Дзяўбала нават
выклікаць у кабінет
ні галоўнага,
ні нама,
каб як след ім наківаць,
з інжынера «стружку зняць»...
Нават смешна: сакратарку,
белабрысую Адарку,
за нядбайнасць не разнёс,
не давёў яе да слёз...

Ноч не будзе спаць Дзяўбала —
дзень пражыў ён так няўдала!..

## КАЛАБОК

Летнім днём ля бухты сіняй,
дзе як прысак пясок,
чарнабровай дзяўчыне
выхваляўся Калабок:
— А я з дому ўцёк,
ад бабулі ўцёк,
ад дзядулі ўцёк,
ад татулі і матулі я таксама ўцёк.
Будзем мы з табой кахацца,
цалавацца-мілавацца,
пажывём на пляжы ўсмак.
Сам сабе ён думаў так:
«Не паспееш стаць ты мамай,
ад цябе ўцяку таксама».
І ўцёк!..

Надвячоркам непагодным
у кавярні «Паплавок»
сабутыльнікам прагорклым
выхваляўся Калабок:
— І ад жонкі я ўцёк,
і ад дзетак я ўцёк,
аліментаў не плачу,
п'ю-гуляю з кім хачу,
бо я вольны казак.
Сам сабе ён думаў так:
«Вось дап'ём віно «Агдам»,
і ад вас я драла дам».
І ўцёк!..

Дакаціўся днём марозным
ён да фабрыкі «Клубок»,
у аддзеле кадраў слёзна
кляўся-плакаў Калабок:
— Я з шальмана ўцёк,
ад дурману ўцёк,
ад зладзеяў і ад п'яніц я таксама
ўцёк,
жыць хачу сумленнай працай,
буду шчыра старацца,
ці ж я нейкі там слабак...
Сам сабе ён думаў так:
«Атрымаю аванс,
уцяку і ад вас».
І ўцёк!

Спрытны, хітры Калабок,
ад каго яшчэ ты ўцёк:
ад нашчадкаў,
ад падаткаў,
ад грамадскіх абавязкаў,
ад імкнення,
ад гарэння,
ад згрызотаў сумлення,
ад павагі і падзяк?
А я думаю вось так:
«Хоць якім будзь ветрагонам,
не ўцячэш, брат, ад законаў!»
Не ўцячэш!

## АДАМ І «АГДАМ»

Нёс дамоў Адам зарплату,
завітаў у тую хату,
прадаецца дзе «Агдам»...
Раніцой глядзіць Адам:
ані хаты,
ні зарплаты...
А чаму на вокнах — краты,
здагадаўся сам.

## ЯК Я АНІКЕЯ АДВУЧЫЛА АД ХАКЕЯ

*Расказ гаспадыні*

А думаеце, лепшы быў мой Анікей?
Не тое, каб піў ці валяўся на печы,—
па тэлевізары любіў ён глядзець хакей
кожны вечар,
кожны божы вечар...

Уключыць на ўсю катушку гук,
увапрэ ў экран свае вочы,
а па хаце стук ды грук, стук ды грук —
клюшкі ляскочуць.
А калі ўжо удасца каму забіць
тую шайбу ў вароты чужыя,
Анікей, як ашалелы, крычыць:
— Го-о-ол! — і ад радасці вые.

Мне — і дроў прынясі,
і ў грубцы палі,
і карову падой,
і згатуй вячэру,—
не толькі прысесці —
дыхнуць няма калі...
А яму хоць бы што —
гладзіць свой чэраў,
палец аб палец не ўдарыць, лайдак,
хатніх турбот не хоча і ведаць,
то ў яго матч «Дынама» — «Спартак»,
то «ЦСКА» — «Тарпеда»...

Ну, думаю, ладна,—
пакажу табе хакей...
Аднойчы падсела да яго на канапу
і ласкава так прашу:
— Скажы, Анікей,
хто перамагае: чэхі ці канадцы?
Ён на мяне спадылба зірнуў,
скрывіўся і бровы нахмурыў,
а потым расплыўся ва ўсмешцы:
— Ну-ну,
далучайся да спорту,
фізічнай культуры.

І стаў мне тлумачыць, што да чаго,
якія ў гульні той парадкі,
і так захапіў, што і я ўжо з ім «гол!»
крычу і пляскаю ў ладкі.
Гляджу... І раптам —
штурхель яго ў бок:
— Ці чуеш, Анікей, гарэлым патыхае?
Схадзі, выцягні з грубкі чыгунок,
відаць, гэта бульба падгарае...

Затым паслала напаіць цяля,
прынесці вады,
паправіць на ганку біла,
маўляў, раскажу табе ўсё пасля:
хто шайбу забіў, а хто — мазіла...

Цяпер кожны вечар гляджу я хакей
па тэлевізары каляровым.
Гляджу я хакей,
а мой Анікей
паліць у печы і доіць карову.

5 Зак. 213

## КАЧАН

На зямлі калгаснай тлустай
дваццаць пяць гадоў назад
вырасціў качан капусты
аграном Свістун Панкрат.
Не качан, а цуд —
важыў цэлы пуд.
У газеце напісалі:
«Працавіты аграном...»,
нават сфатаграфавалі
Свістуна з тым качаном.
Паглядзіце ўсе:
ледзь качан нясе.
І з тае пары на градах
не бывае больш Панкрат,
а чытае на нарадах
лекцыю або даклад —
вучыць маладых
аж займае дых.
Сам свірэпкі ўжо ад рэпы
не адрозніць сёння ён,
павучае: — Глебу трэба
шанаваць з вясновых дзён...
Гэтак аграном
стаў балбатуном...

## ЧМЕЛЬ

Ружавеюць на паляне ружы,
каласіцца за ракой ячмень.
Па-над ружай несціхана кружыць
паласаты нарыхтоўшчык — чмель.

Мёд і воск збірае з кветак чыстых,
гаспадарыць у жывой красе:
поўзае па залатых тычынках,
з песціка нектар салодкі ссе.

Слаў чмяля, мой дружа, ды не дужа
спрыт яго і розум выхваляй:
мёд знайсці і дурань зможа ў ружы,—
ты яго ў палыне адшукай!

## ШРАЦІНКІ

### ЭКАНАМІЧНЫ «ЭФЕКТ»

У цяслярскай справе
быў мастак Пахом:
каб паправіць браму,
разламаў ён дом.

### ПРЫНЦЫП ПРЫСТАСАВАНЦА

А ці быў бы ён ля місы,
каб не йшоў на кампрамісы?

### СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

Вучыць Ліса гаспадара:
— Прагані Сабаку з двара,
бо сядзіць ён ля дзвярэй
і палохае Курэй,
часта брэша здуру —
не нясуцца Куры.

### ПАСКОРАНЫ МЕТАД

Мала быў ляснічым Проў,
наламаў жа многа дроў.

## МАДЭРНАЕ ДЗІЦЯ

Гэта хлопчык.
А хто — тата?
Не знайсці без адваката.

## МЕТАМАРФОЗА

Быў Мікіта знакамітым,
як сядзеў ён ля карыта.
А прагналі ад карыта —
незаўважным стаў нібыта.

## ТРАКТАТ

Напісаў Лявон трактат —
вінегрэт з чужых цытат.
Пахваліў яго прафесар,
ён Лявону — родны брат.

## «ПЕРАБУДОЎШЧЫК»

Перабудове я
заўсёды рады,
пакіньце толькі мне
маю... пасаду.

## «КАМПАНІЯ» У КАЛГАСЕ

З ранку ў канторы — аўрал, бегатня,
лічаць бухгалтары і старшыня,—
як з фармалізмам змаганне вядзецца,
зводкі ў раён патрабуюць штодня.

### «БРЫГАДНЫ ПАДРАД»

Кажа брыгадзір механіку Алесю:
— Скокні, браце, на адной назе,
падмяні шліфоўшчыка, бо змерзне —
за вінам стаіць ён у чарзе.

### РАМОНТ

Стаў тэлевізар нешта «барахліць»,
і давялося майстра запрасіць.
Цяпер няма палос больш на экране —
бясконца ён мігціць, мігціць, мігціць...

### ДРУЖЫННІК-ІЛЮЗІЯНІСТ

— Ратуйце!.. Б'юць мяне! — пачуўся крык,
аж здрыгануўся ў небе маладзік.
Кудысьці раптам знік-прапаў дружыннік,
вось толькі тут стаяў і — бач ты! — знік...

### НАСУПЕРАК МАТЭМАТЫЦЫ

*Адзін* сябрук мой добры, галоўбух,
дастаў *адзін* мне імпартны кажух,
я падпісаў яму *адну* паперку...
Чаму ж сядзім за кратамі мы *ўдвух?*

## ПАРТРЭТЫ ПЯРОМ

### ПАЭТ-ПЕСЕННІК

Без складу і ладу
туркоча руладу.

### БАЙКАПІСЕЦ

Звяроў, жывёлін, птушак, рыбу
ганьбуе за людскія хібы.

### МЕМУАРЫСТ

Пра каго б ён ні пісаў,
але ў цэнтры будзе — сам.

### РЭЦЭНЗЕНТ

Адно ў яго імкненне —
усыпіць сваё сумленне.

### ПАЭТ-САТЫРЫК

Падбірае рыфмы, рытмы,
каб — і смешна,
і — бяскрыўдна.

### БЕЗДАР

Свядома,
без стомы
трэцца ля вядомых.

## ПАРАДА МУЗЫ

Муза, прагная спакусы,
прытвараецца дзяўчынай:
фарбай вымазала вусны
і прыпудрыла маршчыны,
сівізну сваю прыправіць
хной і модным перманентам:
— Жніце кветкі ранняй славы,
легкадумныя паэты,
моднае цяпер убранне —
недаспелыя куплеты,
недаспелыя,
недапечаныя,
хмелем велічы
пераплеценыя.
З вершыкаў зялёненькіх —
вяночкі кучаравыя,
бязвусыя паклоннікі
скажуць:
«Гэта лаўры».
Ці ж не верыць маладым?
Слепіць вочы славы дым.
А затым?
Затым, вядома,
самі ўбачыце — салома!..

## ПЧОЛЫ

Над цвітучай ліпай вулей —
пчолам райскае жыццё:
ім за свет ляцець не трэба,
крылы пругкія стамляць.

І яны з пахучых кветак
дармавы нектар збіраюць,
напаўняюць соты-дзежкі,
каб хапіла на зіму.

І калі да іх падыдзеш,
без разбору ўсіх джыгаюць:
і таго, хто ставіў вулей,
і — хто ліпу пасадзіў.

## У ЦЫРКУ

Дрэсіроўшчык пугай б'е мядзведзя —
і мядзведзь
на веласіпедзе едзе,
а пасля
кладзе яму ў зяпу цукру драбок —
і мядзведзь
пакорна схіляе галаву набок.

## ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНКА

*Парады маладым аўтарам*

Пішаш, браце, прозу — тоўстыя раманы?
Не спяшай з канфліктаў гарадзіць гарод,
лепш, калі сюжэцік будзе твой туманны:
ні тупы, ні востры — нешта пасярод.

Ты — паэт?
Запомні, ехаць рызыкоўна
на кантрастах рэзкіх — каламазь і мёд...
Хай герой лірычны будзе памяркоўны:
ні змагар, ні мямля — нешта пасярод.

Публіцыст ты, браце?
З тэмаю надзённай
будзеш доўга біцца рыбінай аб лёд,
чытачу дай сёння нізку сцэн будзённых:
ні хлусню, ні праўду — нешта пасярод.

Для дзяцей ты пішаш кніжкі-маляванкі?
Не імкніся многа выдумляць прыгод,
наскубі бадылля і пляці пляцянку:
ані быль, ні казку — нешта пасярод.

Калі ж ты сатырык,
вырывай з карэннем
пустазелле злое, каб не выспеў плод,
і трымай надзейна у руках з натхненнем
ні мятлу, ні вілы — нешта пасярод,

Крытыкай заняўся?
Што ж, служы прагрэсу,
фіміямам славы акрапі ўмалот.
Будзь жа прынцыповым: не пускай у прэсу
ні ялей, ні доўбню — нешта пасярод.

Дык за працу, дружа!
Твор пішы і тут жа
сам чытай, каб іншым не ствараць турбот,
і лічы, што ты ўжо самабытны дужа:
ні чытач, ні аўтар — нешта пасярод.

## СКАРГА «СВАЙГО» ХЛОПЦА

Як на сходзе
пры народзе
біў у грудзі Смык Валодзя:

— Выступаць я не прывык,
ды скажу адкрыта:
гэны самы гасразлік
нам усё наблытаў.
Ані толку,
ані ладу...
Дзе шчэ ўбачыш глум такі?
І арэндныя брыгады,
і сямейныя падрады...
Гэта ж, братцы, кулакі!
Эгаісты!
Скупярдзяі!
Жмоты!
Жмінды і звяры!..
У хаўрус свой не прымаюць,
кажуць:
«Ты для нас стары».
А які я ім стары?!.
Мне ўсяго шчэ дваццаць тры.
Я здаровы
і вясёлы,
адзіноты не цярплю,
захапляюся футболам
і кампанію люблю.
На ігрышчах,

на гулянках
не шкадую ног сваіх.
І пры мне заўсёды — шклянка,
каб распіць штось на траіх.
А яны:
            стары,
                        стары...
Во сквалыгі!
Во звяры!

## ЖОНКА МУЖА БЕРАЖЭ

Ажаніўся Клім Сарока
і прыкметна пасвяжэў —
ад сурокаў
і папрокаў
жонка мужа беражэ.
Любая Арынка,
мудрая жанчынка
павучае:
«Будзь на працы
актывіст і барацьбіт,
заклікай сяброў старацца,
сам жа лёгенька рабі...
Разважай пра ўсё адкрыта
(дэмакратыя ж цяпер!),
сам жа сунься да карыта,
адпіхаючы цяцер...
Ды не клюнь, як язь азёрны,
на галоснасці кручок:
смела крытыкуй вахцёра,
пра начальніка ж — маўчок!»

Любая Арынка —
мудрая жанчынка,
ад сурокаў
і папрокаў
пільна мужа беражэ.

Ходзіць сыты Клім Сарока,
на пад'ём ён пацяжэў...

## ІНСТРУКТАЖ

— Сябры, вы — кемлівы народ,
і, хоць гэта нязвычна,
павінны мы правесці сход
дэ-ма-кра-тыч-на.
Каб не займацца балбатнёй,
а вырашаць праблемы,
я прапаную старшынёй
абраць Гвазда Ахрэма —
ён будзе сходам кіраваць,
як генерал парадам,
і не дазволіць парушаць
рэгламент
і парадак.
Пачнуцца спрэчкі — ты, Сцяпан,
адразу возьмеш слова,
завершыш: выканаем план
датэрмінова,
даклад пахваліш...
А пасля
Кукуля Антаніна
пакрытыкуе Васіля
па частцы дысцыпліны.
За ёй — ліфцёр Ганчар Янусь
са шчырай скрухай скажа
пра дужа беднае меню
ў сталоўцы нашай...
Ды абароніць Апанас
шэф-повара Сунклету:
маўляў, пячэ ў апошні час

смачнейшыя катлеты...
Яшчэ Мамоня-інжынер
падкіне прапанову —
маладажонам больш кватэр
даць у будынку новым...
Калі ж пачнуць мітынгаваць,
не будзь, Антон, авечкай —
сумей усіх перакрычаць:
«Спыняйце спрэчкі!!!»

Такі наказ свайму «актыву»
даваў прафорг Даніла Сліва.

Ды марны быў той інструктаж,
бо сход прайшоў зусім інакш:
далі там перцу Сліву,
ягонаму «актыву»!

## ТАЛАКА

Разваротлівы Якуб
сабірае талаку:
— Заклікаю, братцы,
пера-бу-да-вацца!
Пусцім дом стары на злом,
пабудуем новы дом,
новы, адмысловы,
свой палац сасновы.
Падыходзь смялей, Рыгор,
будзеш ты мяшаць раствор.
Арматуру для падмурка
зробяць Апанас і Юрка.

Вы ж, Батуры — Геня й Веня,
будзеце часаць бярвенне.
Нікадзім, Андрэй, Імполь
пакладуць падлогу, столь.
Варывон і Марка
зоймуцца сталяркай.
І накрыюць бляхай дах
Леапольд, Карусь і Стах...
Дом стары зруйнуем,
новы пабудуем!
Дык за справу, сябры,
пачынаем: раз, два, тры!..

Ды не кратаюцца людзі:
— Ну, а сам рабіць што будзеш?
— Я? — здзіўляецца Якуб,—

сабіраю талаку!
Расстаўляю, павучаю,
намячаю рубяжы,
мэблю новую шукаю —
буду ў новым доме жыць!
— Ты, адзін?
— Чаму ж — з сынамі,
сваякамі і зяцямі...
— З імі вось і дом рабі,
лозунгаў нам не трубі!

## КЛОП-МЕМУАРЫСТ

Мемуары піша Клоп
пра Сумленнага Мікіту:

«Быў Мікіта хлебароб,
на загонах сеяў жыта,
сеяў проса і гарох,
карчаваў хмызняк са спрытам,
працаваў адзін за трох,
еў таксама з апетытам:
умінаў за дзве шчакі
бульбу-юшкай,
бульбу-кашай,
маласольныя гуркі
і цыбулю з сыраквашай.
Я ж у шчыліне сядзеў,
на сваё ўсё бачыў вочы;
сустракаўся з ім штодзень,
а дакладней —
кожнай ноччу,
бо на тое ж я і Клоп,
каб з людзьмі быць у яднанні...
Як пачую,
што захроп,—
так і цягне на спатканне.
Без Мікіты жыць не мог,
да яго душа ляцела...
Прыпаўзу —
ён спіць, як бог,
я — пад коўдру і да цела...

Ну, ды што я пра сябе,
мемуары ж — пра Мікіту.
На касьбе і малацьбе
быў Мікіта працавіты.
Я дружыў з ім колькі год,
дружба мне давала крылы,
і салодкая,
як мёд,
кроў яго мяне жывіла!»

## САНЕТ
## КНІЖНАМУ ЧАЛАВЕКУ

**Паводле Дзімітра Панцялеева**

Грызеш да стомы кнігі і трактаты,
збіраеш мёд з акацыі чужой,
і блытаніна ў галаве тваёй:
змяшаліся імёны, назвы, даты...

Харчуешся чым — праўдай ці хлуснёй?
Каму зайздросціш — здольным ці багатым?
Учора богам быў, а сёння стаў піратам.
Чым будзеш заўтра — духам ці зямлёй?

А дні бягуць... І наракаць не трэба,
што аднастайныя яны, нібы званок,
які склікае вучняў на урок.

Рабом абставін не зрабіся ты:
купі для Евы добры бохан хлеба —
вярніся з ёй у райскія кусты.

# ДВАНАЦЦАЦЬ МЕСЯЦАЎ

## СТУДЗЕНЬ

Падае, падае, падае снег...
Дзед Мароз валачэ падарункаў мех,
ды не мне,
а іншаму камусьці
папёр вышэй паверхі на тры,—
класіку, мусіць.
Ну і чорт яго падзяры!
Даўно забыў я прыгожыя казкі,
пражыву і без ласкі,
без кілбаскі-падмазкі...

*

Студзень —
свята і ў будзень,
бо на вуліцы мароз —
адмарозіш вушы, нос.
Дык ляжы сабе на печы,
грэй азадак,
пяты,
плечы,
еш цыбулю, ананас,
пі шарбет і хлебны квас,
калядуй,
часу, браце, не шкадуй.

## ЛЮТЫ

Намятае завіруха
гурбы снегу ля платоў
і буркоча, як свякруха
на нявестку...

*

Пытаецца люты:
— Ці добра ты абуты?
— Мяне абулі ў лапці, падкавалі,
зняважылі,
абмовілі
і абплявалі...
а пасля — разулі і раздзелі
ў самыя мяцелі...

## САКАВІК

Сакавік, сакавік!
Снег з палёў яшчэ не знік,
не пускаюць сок бярозы,
ноччу ціскаюць марозы,
вецер — сіберны...
Аднак
дзесьці ўжо на паўдарозе
вестунок вясновы — шпак.

## КРАСАВІК

У зацішку на ўзмежку,
дзе прагрэлася зямля,
кветка сіняя — пралеска
усміхнулася здаля.

## МАЙ

Май — зялёны,
май — чырвоны,
распусцілі космы клёны,
вішня высыпала цвет —
пасвятлеў адразу свет.

## ЧЭРВЕНЬ

За сунічным борам —
палёў квяцісты ўзор.
Піянерскім горнам
абуджаны прастор.

*

З распаранай сталіцы
імчыся, нібы ў рай,
у лес
і там суніцы
з чарніцамі збірай.

## ЛІПЕНЬ

Ліпы ў ліпені цвітуць,—
пчолы чуюць за вярсту
пах спакуслівы, прынадны.
Ну, а ты, паэт парадны,
чым адметны:
зрокам,
нюхам,
інтуіцыяй
ці вухам?
— Я адметны языком,
не пракормішся ж радком,
языком я і брашу

і парой руку ліжу
выдаўцу і крытыку,
каб было карытачка
з пойлам гусценькім,
хата-пяцісценка,
мэбля і кілімы,
месца хоць бы ў «ЛіМе»
для дубовых вершаў.
Хіба ж я тут першы?

### ЖНІВЕНЬ

Даспяваюць яблыні і слівы —
лепшых не прыдумаеш прынад.
Хіба ж ты не быў тады шчаслівы,
калі лазіў у суседаў сад?
Ах, не лазіў!
Быў такі рахманы —
не сваволіў, і не краў зусім,
і такі быў ціхенькі, слухмяны,
ну, не хлопчык — проста херувім!..
Я табе і веру, і не веру:
гэта ж трэба боская рука,
каб такому людаеду-зверу
вырасці з казяўкі-матылька...

### ВЕРАСЕНЬ

У верасні святлее лес і поле —
ад пошугу барвістых ліхтароў,
што ўсыпалі бяроз і клёнаў голле
шчэ да прыходу цёмных вечароў.

*

Не звоняць больш на голым лузе косы,
не бегае па ржэўніку Савоська —
блазан босы.

Рыпяць нагружаныя збажыной калёсы,
на слівы спелыя садзяцца гуртам восы.

### КАСТРЫЧНІК

На ўсе лады праславілі паэты
і залаты і медны лісцявей.
Пішу марудна нешта кніжку гэту
і мо не скончу нават да завей.

Не, не лянота — іншыя турботы
мне не даюць усесціся за стол.
...Калі табе намуляць ногі боты,
ці зможаш ты, скажы, ганяць футбол?

### ЛІСТАПАД

Зноў — сцягі і транспаранты,
стройныя рады салдат.
Б'юць Крамлёўскія куранты —
пачынаецца парад.
Раз-два, левай! Раз-два, левай!
Строй раўнюткі не ламаць!
На трыбуне Маўзалея
ціха маршалы стаяць,
маладосць успамінаюць,
Севастопаль, Сталінград...
Над планетаю шугае
залацісты лістапад.

### СНЕЖАНЬ

Снежань, снежань на двары!
Прышпіляйце каўняры
і падкладкі з футра —
тут не Брахмапутра!

*

Я забыў, што ўжо — не хлопчык,
не юнак і не дзяцюк.
Бачу: свежы лапік лёду
там, дзе быў учора брук,
разагнаўся, паслізнуўся —
бух!.. Скапыціўся і сеў.
Аблізнуўся,
ды не з'еў.

*

Круг апошні
робіць Месяц,
абляціць Зямлю,
як шар.
Хутка Новы год павесіць
на сцяну мне каляндар.

## ЗМЕСТ

### ДАСПЕЛАЯ НІВА


«Мо каму чытаць ніякавата...» — 4

Жлобінскія эцюды

- Сад — 5
- Партызан — 5
- Памяці паэта — 6
- Не такі базар — 7
- Сям'я майго пляменніка — 8
- Бацькоўскае шчасце — 8
- На лёдзе — 8

Усё схавана — 10

Гаротніца — 12

«Справядлівасць...» — 14

Аб'ява аб абмене кватэры — 15

«Мора — гэта люстра неба...» — 17

Вароты — 18

Басовая струна — 19

Восень — 20

Паэты — 21

Месяц плыве... — 29

Дыялог — 30

Радыяцыя — 31

Партрэт — 32

Руку працягнуў ты... — 34

Карацелькі — 35

Ідзе маці да донечкі... *З народнага* — 38

Літаратурная спадчына — 40

Славацкія замкі — 41

Даспелая ніва калоссем звініць — 43

Лесвіца — — — — — — — — — — — — — — — — 45
«Дабрацца б зноўку мне да таго вусця...» — — — 46
«Не, не люблю я цішыні...» — — — — — — — — — — — 47
«Кожнаму дрэву...» — — — — — — — — — — — — — 48
«Я за славай не ганюся...» — — — — — — — — — — 49
«Усё часцей начамі...» — — — — — — — — — — — — 50
«Перасохлы памяці ручай...» — — — — — — — — — 51
«Яшчэ адзін пракос прайду...» — — — — — — — — 52
«Вішнёвы лісцік з дня на дзень...» — — — — — — 53
«Сонца заходзіць...» — — — — — — — — — — — — — 54
«Дзядуля сядзіць на калодзе...» — — — — — — — — 55
Мінута маўчання — — — — — — — — — — — — — — — 56
«Магчыма, лягчэй будзе жыць у раі...» — — — — 57
Я шчаслівы — — — — — — — — — — — — — — — — 58

ВЕЛЬМІ ПРОСТА...

«Ранавата цяпер вечарэе...» — — — — — — — — — — 60
«Не п'ю, не куру...» — — — — — — — — — — — — — 61
На пляжы — — — — — — — — — — — — — — — — — 62
«Была на сэрцы скруха...» — — — — — — — — — — 63
Санет адкрытасці — — — — — — — — — — — — — — 64
«Абяцала ты мне...» — — — — — — — — — — — — — 65
Чытаючы сексуальны раман — — — — — — — — — 66
Калі б цябе засцігла бура. *Паводле Роберта Бёрнса* 67
Дзяўчына ў акне — — — — — — — — — — — — — — 68
Два букеты народных песень
Польскія — — — — — — — — — — — — — — — — 69
Чэшскія — — — — — — — — — — — — — — — — 74
Эва — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 79
Гэта вельмі проста — — — — — — — — — — — — — 80
Пісаў паэму я... — — — — — — — — — — — — — — 81
У Вані ёсць багаты дзядзька — — — — — — — — 82
Сябры вучаць мяне жыць — — — — — — — — — — 85
Сябры вучаць мяне заляцацца — — — — — — — — 90
У кіно — — — — — — — — — — — — — — — — — — 97
Бунт вучонага дзядзькі — — — — — — — — — — — 100

КАРОТКАЕ ЗАМЫКАННЕ

Няўдалы дзень — — — — — — — — — — — — — — — — 108
Калабок — — — — — — — — — — — — — — — — — — 109
Адам і «Агдам» — — — — — — — — — — — — — — — 111
Як я Анікея адвучала ад хакея. *Расказ гаспадыні* 112
Качан — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 114
Чмель — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 115
Шрацінкі — — — — — — — — — — — — — — — — — — 116
Партрэты пяром — — — — — — — — — — — — — — — 119
Парада Музы — — — — — — — — — — — — — — — — 120
Пчолы — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 121
У цырку — — — — — — — — — — — — — — — — — — 122
Залатая сярэдзінка. *Парады маладым аўтарам* — 123
Скарга «свайго» хлопца — — — — — — — — — — — — 125
Жонка мужа беражэ — — — — — — — — — — — — — 127
Інструктаж — — — — — — — — — — — — — — — — — 128
Талака — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 130
Клоп-мемуарыст — — — — — — — — — — — — — — — 132
Санет кніжнаму чалавеку. *Паводле Дзмітра Панцялеева* — — — — — — — — — — — — — — — — 134
Дванаццаць месяцаў. — — — — — — — — — — — — — 135

**Жычка Хв.**

Ж94 Яшчэ адзін пракос...: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 143 с.

ISBN 5-340-00645-X.

Жичка Ф. Еще один прокос...: Стихи.

Лірыка зборніка напоўнена гармоніяй і прыгажосцю, спакоем і мудрай цішынёй.

Гумарыстычнай нізкай «Кароткае замыканне» і сатырай «Пісаў паэму я...» аўтар нібы стварае заслон горкай спадчыне застойных часоў, якая па інерцыі імкнецца пранікнуць у нашу рэчаіснасць.

4702120202—001 / М 302(03)—91  55—91  ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Жичко Федор Дмитриевич**

**ЕЩЕ ОДИН ПРОКОС**

*Стихи*

Минск.
издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жычка Хведар Дзмітрыевіч**

**ЯШЧЭ АДЗІН ПРАКОС**

*Вершы*

Рэдактар *Р. М. Яўсееў.*
Мастак *Ю. У. Якавенка*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Л. П. Бялова*

ІБ № 3437

Здадзена ў набор 14.02.90. Падп. да друку 28.08.90. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,49. Ул.-выд. арк. 4,79. Тыраж 1400 экз. Зак. 213. Цана 55 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.